№ 48 (741) 28 снежня 2011

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




# Вынікі 2011

# Заробкі ў Ганцавіцкім раёне: 276 тысяч, 400 тысяч…

За студзень-верасень 2011 найлепш зараблялі ў СВК «Будча»: штомесяц сярэднестатыстычнаму работніку там налічвалася па 956 тысяч рублёў, і гэты паказчык большы за раённы амаль на 200 тыс.

Самая нізкая зарплата была ў СВК «Агра-Нач». Яна склала ў сярэднім 481 тысячу.

Найгорш плацілі работнікам механічных майстэрняў у «Агра-Начы» (у сярэднім па 112 тыс. руб.) і конюхам у СВК «Малькавічы» (165 тыс.).

Не разгуляешся і з заробкамі каля 400 тысяч. А да гэтай сумы не «дацягнулі» зарплаты работнікаў майстэрняў у СВК «Малькавічы» і «Цельшына», вадзіцеляў і нават. спецыялістаў «Агра-Начы».

Выходзіць, у многіх гаспадарках парушаецца заканадаўства: работнікам не выплачваецца нават устаноўленая Саўмінам мінімальная зарплата!

Можа быць, кіраўніцтва грабе ўсё сабе? Ды не. Найвышэйшы бал сваёй працы даў кіраўнік СВК «Бярозавец» — 2 мільёны 919 тысяч. Але не ва ўсіх гаспадарках зарплаты старшынь дацягваюць да 2 мільёнаў.

Чаму пры падтрымцы дзяржавы не ўсе СВК могуць выплаціць сваім работнікам нават мінімалку? На гэтае пытанне начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Юрый Лелес адказаў: «Галоўнае, што можна сказаць, — хто як стараецца, той так і зарабляе. Старанныя механізатары, даяркі могуць і дзесяць мінімалак зарабіць».

Прыемна было пачуць, што нехта атрымлівае ў месяц па 10 мінімальных зарплат. На жаль, пакуль мы не чулі прозвішчаў ніводнай, нават самай старанай даяркі, якая так дастойна зарабляе.

**Паводле: Святлана Локтыш, «Ганцавіцкі час»**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Андрэй Хадановіч
**24 снежня 2011 года**

Сёння ў хату цішком
Дзед пракраўся з мяшком,
А ў мяшку, відавочна, заначка.
Барадой — Дзед-Мароз,
Майка з надпісам «ШОС!»
Ну, заходзь, калі ты не гарачка!

Ён сказаў мне: «Шалом!»
І удвух за сталом
Мы падводзілі вынікі года,
Ігнаруючы пост,
І гучаў кожны тост:
«За падманы! За страты! За шкоду!»

Я сказаў, што хлусня
Адусюль і штодня:
«Нават снег падмануў і не выпаў,
Нават мроі ды сны —
Разнавіднасць маны.
Вось і ты… Тост сказаў, а не выпіў!»

А дзядок у адказ
Выпіў з келіха раз,
Выпіў два — і смяецца, як д’яблік:
«Усё праўда, але
Ёсць віно на стале,
Мандарыны, карыца і яблык!

Усё праўда, аднак,
Будзе зорка, як знак,
Што надзея не знікла дашчэнту,
А сябры, як цары,
Ужо рыхтуюць дары,
І малы будзе рады прэзэнту!

Хай петарды ўгары
І — «Ялінка, гары!»,
І згадаецца нам, як калісьці,
Пра калядны настрой,
Пра спаўненне ўсіх мрой
І пра ўсіх немаўлят у калысцы.

Хай увечары двор
Пасвятлее ад зор
І, сігаючы ў санкі з разбегу,
Ад Раства да Раства
Лепіць снежкі дзятва,
Бо нарэшце нападае снегу!»

## Падпалкоўнік у адстаўцы Мікалай Казлоў просіць адгукнуцца сведкаў



Увага! Калі нехта бачыў, як затрымлівалі Мікалая Казлова 19 снежня 2011 прыкладна ў 19.15 на пераходзе ад універсама Цэнтральны на Кастрычніцкую плошчу, — звяжыцеся, калі ласка, з прэс-службай АГП па тэлефоне (017) 289-50-09.

Мікалай Казлоў — падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы, які ў 2008 г. пасля парламенцкіх выбараў расказаў пра механізм фальсіфікацыі галасоў на выбарчым участку, які ён мусіў ахоўваць падчас датэрміновага галасавання. У 2010 «Нашай Нівай» ён быў прызнаны чалавекам года. Казлова асудзілі нібыта за нецэнзурную лаянку і непадпарадкаванне, хаця ў судзе ён змог даказаць, што знаходзіўся зусім не ў тым месцы, якое пазначана ў пратаколе затрымання.

## Захавайма не толькі веру, але і традыцыі бацькоў

Заклікае ў сваім калядным звароце **айцец Аляксандр Надсан**.

Сорак гадоў таму я наведаў першы раз Амерыку. Быў якраз перадкалядны час. Што мяне ўразіла амаль адразу пасля высадкі з самалёта ў Нью-Ёрку — гэта рэкламы на ўсіх вялікіх крамах і ўстановах з пажаданнямі Merry Christmas (вясёлых Калядаў) і тут жа побач Happy Hanuka (Вясёлай Ханукі).

Ханука — свята габрэйскае, якое прыпадае прыблізна ў той самы час, што і Каляды.

Як і Каляды — гэта радаснае свята, «свята святла», калі габрэі ўспамінаюць аднаўленне ў 165 г. да нараджэння Хрыста ў Ерусаліме святыні, якую знішчылі ворагі, пад чыім панаваннем тады апынулася Палесціна, і якія хацелі «ашчасліўіць» габрэяў, змусіўшы іх адмовіцца ад веры ў адзінага Бога і традыцыі бацькоў, і далучыцца да «вышэйшай» паганскай культуры іхніх заваёўнікаў.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Аднак «няўдзячныя» габрэі адмовіліся ад такіх дабрадзействаў, паўсталі супраць сваіх захопнікаў і, нягледзячы на няроўныя сілы, перамаглі іх, захаваўшы непарушнай сваю веру і вернасць традыцыям сваіх бацькоў. Стрыжнявым пунктам гэтай веры было чаканне Месіі для аднаўлення Валадарства Божага, што і здарылася з прыйсцем на свет Госпада нашага Ісуса Хрыста, нараджэнне якога мы цяпер святкуем.

Такім чынам свята Ханукі мае прамое дачыненне да нашых Калядных святаў. Яно дае нам таксама шмат матэрыялу да роздуму аб важнасці захаваць не толькі веру, але і вернасць традыцыі бацькоў, мець смеласць бараніць яе і не паддацца спакусе далучыцца да «вышэйшай» чужой культуры. Вось гэтую думку хачу пакінуць да развагі вам, дарагія чытачы, у гэты радасны дзень нараджэння Госпада Бога і Збаўцы Нашага Ісуса Хрыста.

**Каляды-2011, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа**
**а. Аляксандр Надсан, Лондан**

### Сцісла

**Што з Саннікавым?**

Ад Саннікава прыйшоў кароткі ліст з калоніі «Віцьба-3».

Як паведаміла жонка кандыдата ў прэзідэнты Ірына Халіп, у лісце Андрэй Саннікаў піша, што атрымаў перадачу і коротка адзначае: «Я спрабую табе і іншым паведаміць аб тым, што са мной адбываецца, але лісты не праходзяць. Мабыць, пошта ў твой бок наогул перастала працаваць».

Адвакатка палітвязня Марына Кавалеўская ўжо амаль два месяцы не можа сустрэцца са сваім падабаронным.

**Нізкі курс валют**

Як і заўжды на Каляды, калі людзі рыхтуюцца да святаў і здаюць валюту, курс даляра дасягнуў сваіх мінімальных ад верасня значэнняў. На таргах 27 снежня ён склаў 8360 рублёў. Курс расійскага рубля — 269 рублёў. Курс еўра апусціўся да 10930. Дарэчы, далейшыя паводзіны пары даляр-еўра сёння не прадкажа ніхто.

**Вялікія заводы спыняюцца на канікулы**

Паводле папярэдняй інфармацыі, з 31 снежня да 9 студзеня не будзе працаваць «Амкадор», з 29 снежня па 4 студзеня — Мінскі маторны завод, з 31 снежня да 9 студзеня — Мінскі аўтамабільны завод, з 30 снежня да 2 студзеня — Мінскі трактарны завод, з 31 снежня да 2 студзеня — БелАЗ, з 31 снежня да 9 студзеня — Мінскі завод колавых цягачоў, з 30 снежня да 2 студзеня — «Атлант». Афіцыйна ж 2 студзеня для ўсёй краіны — працоўны дзень.

**Вецер**

У Чавусах вятрыска 27 снежня паваліў галоўную яліну горада.

**Канцэрт зорак-бардаў**

7 студзеня ў мінскім Палацы культуры ветэранаў (Янкі Купалы, 21) — святочны канцэрт з удзелам зорак акустычнай музыкі. Заспяваюць Таццяна Беланогая, Зміцер Бартосік, Андрэй Хадановіч... Таксама падчас канцэрта адбудзецца прэзентацыя дыска «Калядныя песні Данчыка». Пачатак, у 19.00. Даведкі: (29) 649-08-88. Квіткі каштуюць ад 25 000 да 45 000.

**СГ**

### Самае чытанае на nn.by за 21—27 снежня

1. Садысцкая помста Femen-істкам: вывезлі ў лес, раздзелі, здзекаваліся
2. «Дзякуй, я адмоўлюся». Пытанне Марыны Коктыш Лукашэнку — відэа
3. Прэс-канферэнцыя Лукашэнкі: поўны анлайн
4. Femen расказвае новыя дэталі: выкрадальнікі назваліся актывістамі РНЕ
5. Самы папулярны ролік расійскага інтэрнэту: навагодні зварот Мядзведзева
6. Масква патрабуе перамен — рэпартажы НТВ і Першага канала, відэа выступаў асноўных аратараў
7. На навагоднім ранішніку Коля Лукашэнка быў у касцюме прэзідэнта? — відэа
8. Расстрэл бастуючых у Жанаазэні — відэа
9. Жыхары Баранавічаў штурмам бралі новы «Еўраопт» — відэа
10. Паўночная Карэя вачыма відавочцы — камуніста Сяргея Вазняка

# Чалавек года — Сяргей Міхалок

**Па традыцыі ў апошнім нумары «Наша Ніва» вызначае людзей года. Тых, чые ўчынкі запомніліся, паўплывалі на гісторыю. Самыя яркія асобы года ў рэйтынгу «НН».**

Сёлета наш выбар паў на Сяргея Міхалка. Лідар гурту «Ляпіс Трубяцкой» праз некалькі дзён пасля Плошчы «выкінуў» у інтэрнэт песню «Грай». «Напілісь быкі, скачуць па краіне, топчуць ручнікі капытамі ў гліне», — спяваў Міхалок. Многія пабачылі ў кампазіцыі паралелі з тым момантам, калі штодня адбываліся арышты,ператрусы, гвалт.

«Ляпіс Трубяцкой» пачынаў як балаганны гурт, накіраваны на расійскую аўдыторыю. «Увязу цябе, увязу ў Сочы», — спяваў пухлы Міхалок. За апошняе дзесяцігоддзе лідар каманды не толькі накачаў мускулы, але і стаў бліжэйшы да беларускай рэчаіснасці і мовы.

У сакавіку «Ляпіс Трубяцкой» трапляе ў «чорны спіс» беларускіх выканаўцаў. Іх песні забароненыя на радыёстанцыях і тэлеканалах.

Міхалок дае рэзкія інтэрв'ю, дзе называе Лукашэнку «хлусам, злодзеем і непрэзідэнтам». Гэта выклікала скрыгат у Генеральнай пракуратуры, якая выклікае Міхалка для тлумачэнняў выказванняў на адрас кіраўніка краіны.

Пры канцы года «Ляпіс» здымае кліп на класічны верш Янкі Купалы «Хто ты гэткі?». Кліп з вялізным бел-чырвона-белым сцягам паглядзелі на Ютубе ўжо паўмільёна разоў.

На сваіх канцэртах Міхалок гукае «Жыве Беларусь» і ШОС. Пад сэрцам ён выбіў татуіроўку «Не быць скотам», а на назе — Пагоню. Папулярны музыка мае вялікі ўплыў на сваю аўдыторыю.



Ад Сяргея Міхалка сыходзіць магутная творчая энергетыка.

### Энтузіяст года — стваральнік сайта Пракапові'ч

Калі ў краіне прапала валюта, многія займалі чэргі ў банках, два разы на дзень адзначаючыся ў пераклічках. Зрэшты, разгубіліся не ўсе. Група энтузіястаў стварыла віртуальны абменнік prokopovi.ch.

Дзеянне яго было простым: жадаючыя прадаць і набыць даляры дамаўляліся між сабой. Першы нёс валюту ў банк, а другі — адразу яе набываў, даплочваючы пасля розніцу між афіцыйным і неафіцыйным курсамі.

Сайт набыў шалёную папулярнасць у час крызісу. Працаваў не толькі абменнік, аператыўна абнаўляліся і навіны. Стваральнікі зачыняць «Пракаповіча» не збіраюцца і цяпер, калі валюта па новых цэнах вярнулася ў банкі. Дзе гарантыя, што паслугі сайта зноў не спатрэбяцца?

**Гутарка са стваральнікам сайта на старонцы 10.**

### Героі года — Мікіта Ліхавід, Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч ды іншыя

Пасля Плошчы паўсотні чалавек апынуліся за кратамі. Гэтыя людзі праявілі асабістую мужнасць і геразім. Чаго варты 21-гадовы хлопец Мікіта Ліхавід, які адмаўляўся выконваць загады турэмнага кіраўніцтва, не лічачы сябе вінаватым. За гэта Ліхавід правёў у штрафных ізалятарах 81 суткі. Але яго так і не зламалі.

Усім палітвязням выкручвалі рукі, каб яны падпісалі прашэнні аб памілаванні на імя Лукашэнкі, каб быць вызваленымі. Большасць не падпісала нічога, у тым ліку кандыдаты ў прэзідэнты Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Ус, палітыкі Зміцер Бандарэнка, Павел Севярынец ды іншыя.

Узор адданасці дэманстравалі жонкі і мамы арыштаваных — Ірына Халіп, Марына Адамовіч, Наста Палажанка, Дар'я Корсак. Сукамернікі зайздросцілі палітвязням, што тыя маюць такіх спадарожніц жыцця.

### Абаронцы года — адвакаты

Колькі іх ужо палохалі ў мінулыя гады за працу з палітвязнямі, але ўсё адно арыштаваныя на Плошчы без абароны не засталіся. Хоць адвакаты рызыкавалі страціць сваю высокааплатную працу.

Мінская абласная калегія пазбавіла ліцэнзіі адваката Дашкевіча і Саннікава Паўла Сапелку.

Прыпынілі ліцэнзію Тамары Сідарэнцы (абаронца Някляева), Уладзіміру Тоўсціку, Тамары Гараевай (абое — Халіп), Алегу Агееву (Міхалевіча).

Прыклад з іншай палярнасці — суддзі. Ніводзін з іх не вынес апраўдальнага прысуду па справе Плошчы. Усе штампавалі: 3, 4, 6 гадоў турмы.

Грамадскасць назірала, як выпускніца Коласаўскага ліцэя Вольга Комар (Канойка) адпраўляла на чатыры гады ў турму Васіля Парфянкова, а іншы выпускнік гэтай установы Зміцер Лаеўскі бараніў Алеся Бяляцкага.

### Сэрца года — Дар'я Каткоўская

Ніхто не забыты, нішто не забытае. Па такім прынцыпе дзейнічалі валанцёры, што дапамагалі вязням Плошчы. Без перадачкі на Новы год не застаўся ніхто. Праца каардынавалася на Сядзібе БНФ, а яе рухавіком была юрыст Дар'я Каткоўская.

### Слова года — ШОС

З лёгкай рукі блогера Яўгена Ліпковіча жартаўлівы трасянкавы скарот стаў папулярны не толькі на інтэрнэт-старонках. ШОС пішуць на дамах і гаражах, слова выкарыстоўваюць як тост на застоллях. Нават на радыёстанцыях замаўляюць віншаванне для ШОСа Аляксандра Рыгоравіча.

### Журналіст года — Сяргей Дарафееў

Вядучы АНТ Сяргей Дарафееў правёў сумленны эфір у дзень выбараў, дзе даваў слова не толькі прадстаўнікам улады, але і апазіцыі. За гэта месца вядучага ён страціў. Але доўга без працы Дарафееў не заставаўся, уладкаваўшыся ва Украіне.

### Боршч года — Лідзія Ярмошына

Старшыня ЦВК гатова яшчэ шмат разоў паўтараць свае словы пра боршч, які павінны варыць жанчыны замест удзелу ў мітынгах. Хаця гэта была не адзіная феерычная заява сёлета: «Я страшэнна расчараваная жаночай часткай маладога пакалення — яны агідныя маці, яны паскудныя жонкі, яны не добрыя, не міласэрныя людзі. Таму — як хутчэй — трэба іх заклікаць да баршча, дзяцей, кніжак і гэтак далей».

### Аванс года — Сяргей Румас

З гэтым новым чалавекам ва ўрадзе звязвалі надзеі на рынкавы курс айчыннай эканомікі. І Румас гэтыя спадзяванні шмат разоў сілкаваў сваімі словамі пра рэформы. Тым не менш, вялікіх зменаў Румасу ды іншым «рыначнікам» правесці так і не далі. Віцэ-прэм'ер пакуль застаўся адным вялікім авансам.

### Новыя імёны ў палітыцы — Арцём Шаркоў і Вячаслаў Дзіянаў

У самы разгар эканамічнага крызісу, калі маўчала апазіцыя, на сцэну выйшлі новыя людзі. Аўтааматар Арцём Шаркоў зарганізаваў акцыю «Стоп-бензін», якая ў чэрвені перакрыла праспект Незалежнасці і дабілася саступак ад уладаў.

На чэрвень прыпаў і пік «Маўклівых акцый» пратэсту — адной з найярчэйшых падзей года. Цяжка сказаць, ці можа належыць аўтарства гэтай ідэі аднаму чалавеку, але іх звязваюць з імем палітуцекача Вячаслава Дзіянава.

### Страты года — Віталь Сіліцкі, Руслан Салей

Памёр ад раку выдатны інтэлектуал, дырэктар Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў Віталь Сіліцкі. Чалавек з заходній адукацыяй і беларускім духам. Яму было 38 гадоў.

Працяг на старонцы 4.

### Здымкі года



21-гадовы Мікіта Ліхавід выйшаў з турмы пераможцам.




Блогер Яўген Ліпковіч прыдумаў жартаўлівую абрэвіятуру ШОС.

# Асобы года

Працяг са старонкі 3.

У авіякатастрофе пад Яраслаўлем разам са сваёй камандай «Лакаматыў» загінуў капітан хакейнай зборнай Руслан Салей. Яму было ўсяго на год меней, чым Сіліцкаму.

### Трэнер года — Георгій Кандрацьеў

Ураджэнец Талачынскага раёна Георгій Кандрацьеў вывеў моладзевую зборную Беларусі на Алімпіяду-2012. Гэта пакуль найбольшы поспех нашага футбола на ўзроўні зборных. Пятровіча за геройства з маладзёжкай павысілі да трэнера нацыянальнай каманды.

Плыўчыха Аляксандра Герасіменя ўпершыню выйграла золата на чэмпіянаце свету. Кажа, ёй прапаноўвалі пераехаць у Расію на выгадны кантракт, але яна адмовілася.

### Шафёр года — Міхаіл Захараў

Некалі ў гэтай намінацыі перамагаў цяжкаатлет Андрэй Арамнаў, які па п’яні трапляў у дарожныя прыгоды.

Сёлета адзначыўся хакейны трэнер Міхаіл Захараў, які разбіў свой Bentley Continental GT. Цана такой машыны 200 тысяч даляраў. Лукашэнка потым публічна скажа, што Захараў быў нецвярозы, у выніку настаўніка пазбавілі правоў на тры гады.

### Дзёрзкасць года — «Фемен»

Украінскія дзяўчаты з аб’яднання «Фемен» правялі смелую акцыю пад сценамі КДБ. Агаліўшыся і начапіўшы вусы, яны гукалі «Жыве Беларусь» і «Свабода палітвязням». У адказ на акцыю дзяўчат вывезлі ў лес у Ельскі раён, збілі і пакоцалі валасы. Тым не менш, «Фемен» збіраюцца правесці ў Беларусі яшчэ акцыі.

### Асуджаныя года — Канавалаў і Кавалёў

Тэракт у мінскім метро быў адной з цэнтральных тэмаў года. 15 загінулых, больш за сотню параненых у выніку выбуху 11 красавіка на «Кастрычніцкай».

Вярхоўны Суд прызнаў вінаватымі ў здзяйсненні тэракта віцебскіх хлопцаў Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Іх прысудзілі да расстрэлу. З лістом да Лукашэнкі аб памілаванні звярнуўся толькі Кавалёў.

Суд паставіў кропку, але ў грамадства застаецца яшчэ шмат пытанняў па гэтай справе.

### Паэт года — Анатоль Рубінаў

У спікера савета рэспублікі Анатоля Рубінава на восьмым дзясятку гадоў не згасае паэтычны талент. У выдавецтве «Літаратура і мастацтва» выйшлі адразу дзве ягоныя кнігі. Старшыня ПЭН-цэнтра, паэт Андрэй Хадановіч кажа, што гэта новае слова ў сусветнай літаратуры.

Ох, народ ты наш, народ,  
Ох, народище!  
Из полтысячи пород —  
Одна породица!  
Наш один — за ихних двух —  
Только дай борща…  
И раз в двадцать крепче дух…  
Из туалетища.

### «Шалёныя» года — «Будзьма»

Кампанія «Будзьма» стварыла пяціхвілінны пазітыўны кліп па гісторыі Беларусі, які ў стылі рэп прачытаў музыка Аляксандр Памідораў. Ролік з «канкрэтным мажорам Францішкам Скарынам» атрымаўся сапраўды ўдалым і паспяховым.

### Кінагерой года — Франак Вячорка

Ці стане блакбастарам фільм «Мірон. Жыве Беларусь» гаварыць яшчэ рана. Яго здымкі толькі пачаліся ў Польшчы. У аснову сцэнара леглі некаторыя эпізоды з жыцця лідара моладзі Франака Вячоркі. Характэрна, што кіно для беларусаў здымаецца ў суседняй краіне. На «Беларусьфільме» сёлета вартых стужак не было.

**Зміцер Панкавец**

**Людзі мінулых гадоў па версіі «НН»**

2003 — музычны прадзюсер Віталь Супруновіч

2004 — старшыня БАЖ Жанна Літвіна

2005 — палітык Аляксандр Мілінкевіч

2006 — чалавек Плошчы

2007 — маладафронтавец

2008 — трэнер Віктар Ганчарэнка

2009 — дабрачынца Наталка Васілевіч

2010 — былы падпалкоўнік міліцыі Мікалай Казлоў

# Здымкі года




**«Стоп-бензін» 7 чэрвеня спаралізаваў праспект Незалежнасці. Людзі дабіліся зніжэння цаны паліва.**




**У Мінску ўпершыню прайшоў парад бландзінак.**




**Алесь Міхалевіч расказаў пра катаванні ў турме КДБ. Кандыдат у прэзідэнты вымушаны быў таемна ўцячы з краіны, каб не трапіць за краты.**




**Каб развітацца з Салеем, людзі стаялі ў чарзе паўдня.**




**Любоў Кавалёва, мама Уладзіслава Кавалёва, праз некалькі хвілін пасля абвяшчэння прысуду па справе тэракта ў метро.**

# 2011: Як гэта было, або Хроніка найбольш значных падзей

**Студзень**

21 студзеня Аляксандр Лукашэнка ў чацвёрты раз афіцыйна заступіў на пасаду кіраўніка краіны. Інаўгурацыя прайшла на фоне нечуванай хвалі рэпрэсій, узнятай у ноч на 20 снежня 2010. Інаўгурацыйны картэж праехаў па незвычайна пустых вуліцах сталіцы. Лукашэнка прамаўляў падчас урачыстасці асіплым голасам, выглядаў знерваваным.

Пры канцы месяца Еўрасаюз увёў візавыя санкцыі ў дачыненні да 158 беларускіх чыноўнікаў, у тым ліку Лукашэнкі і яго сыноў Віктара і Дзмітрыя. ЗША ўвялі санкцыі ў дачыненні да шэрагу прамысловых прадпрыемстваў Беларусі.

14 студзеня прэзідэнт Туніса Бен Алі ў выніку народных хваляванняў, якія пачаліся ў снежні, пакінуў краіну. З Туніса пачалася «арабская вясна» — парад рэвалюцый, якія прывялі да крушэння тыраніяў, што трымаліся дзясяткі гадоў.

**Люты**

Нацбанк уводзіць новыя правілы набыцця банкамі валюты — першая ластаўка валютнага крызісу, які неўзабаве абрынецца на краіну. Гэта адбываецца на фоне імклівага скарачэння золатавалютных рэзерваў.

З турмы КДБ выходзіць былы кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч, які неўзабаве робіць заяву пра катаванні ў СІЗА.

Першы прысуд за Плошчу-2010 — Васіль Парфянкоў атрымлівае 4 гады турмы строгага рэжыму.

10 лютага пад ціскам 18-дзённых шматтысячных акцый пратэсту з пасады кіраўніка Егіпта сыходзіць Хосні Мубарак, які кіраваў краінай 30 гадоў. Яго жаданне перадаць уладу ў краіне сыну выклікала велізарнае абурэнне ў грамадстве. Найперш сярод моладзі, якая за сваё жыццё не бачыла на палітычнай сцэне іншых лідараў.

Падзеі ў Тунісе і Егіпце натхняюць апазіцыянераў у Лівіі, дзе пачынаюцца масавыя дэманстрацыі.

**Сакавік**

На гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута завялі крымінальную справу за абразу Лукашэнкі. Пазней яго абвінавацяць яшчэ і ў паклёпе, журналіста арыштуюць да суда.

Працягваюцца працэсы над удзельнікамі Плошчы.

У Беларусі нарастае напружанасць на фінансавым рынку. Банкі перастаюць выдаваць крэдыты, з абменнікаў у другой палове месяца знікае валюта.

23 сакавіка ў Мінску прэзентавалі «гарадскую электрычку». У хуткім часе яна звяжа сталіцу з Заслаўем і Рудзенскам.

11 сакавіка ў Японіі адбываецца магутны землятрус. Ён правакуе ўтварэнне цунамі і прыводзіць да аварыі на АЭС «Фукусіма». Японія апынаецца на мяжы тэхнагеннай катастрофы.

**Красавік**

11 красавіка ў выніку тэракта на станцыі метро «Кастрычніцкая» загінулі 15 чалавек, сотні атрымалі раненні. Праз некалькі дзён следства заявіць пра затрыманне падазраваных. Імі апынуцца простыя рабочыя, 25-гадовыя Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў з Віцебска.




**Амерыканскі часопіс Time назваў «чалавекам года» абагулены вобраз «Пратэстоўца» (The Protester). Менавіта ён — незадаволены ўладай чалавек — сёлета наймацней паўплываў на развіццё свету. Нікому не вядомыя людзі дамагліся звяржэння дыктатараў у Егіпце, Лівіі і Емене, працягваюць барацьбу супраць іх у Сірыі, Бахрэйне. 2011 год адзначыўся масавымі пратэстамі і ў Беларусі.**

Міністэрства інфармацыі ініцыявала судовыя працэсы аб закрыцці незалежных газет «Наша Ніва» і «Народная воля». Справы былі распачатыя на розных падставах, але ішлі сінхронна, што выглядала як помста ўлады газетам за асвятленне выбараў 2010 г. і рэпрэсій.

У абменніках утвараюцца чэргі па валюту, у якіх людзі днююць і начуюць. Чуткі пра дэвальвацыю мацнеюць.

**Май**

11 мая Нацбанк правёў 30-працэнтную дэвальвацыю нацыянальнай валюты. На той момант у краіне фактычна дзейнічаў чорны рынак замежнай валюты. Укладчыкі беларускіх банкаў страцілі каля $1,5 млрд на абясцэньванні дэпазітаў.

У беларускіх крамах апусцелі паліцы. Знікла бытавая тэхніка, многія харчовыя прадукты, мяса.

У Мінску асудзілі анархістаў за шэраг акцый, у тым ліку напад на пасольства Расіі і падпал будынка КДБ у Бабруйску. Найбольш атрымаў Ігар Аліневіч — 8 гадоў турмы.

2 мая група амерыканскага спецназа на тэрыторыі Пакістана ліквідавала Асаму бен Ладэна. Пасля тэрактаў 11 верасня 2001 яго назвалі тэрарыстам №1.

**Чэрвень**

7 чэрвеня ў цэнтры Мінска прайшла маштабная акцыя «Стоп бензін!» Сотні аўто заблакавалі праспект Незалежнасці на некалькі гадзін. На наступны дзень Лукашэнка загадаў знізіць цану на паліва.

12 чэрвеня прымежныя гандляры правялі стыхійную акцыю пратэсту ў Брузгах і на Варшаўскім мосце. Іх абурыў загад, які абмяжоўваў вываз паліва за мяжу.

У Мінску і абласных цэнтрах па серадах пачынаюцца «маўклівыя акцыі».

**Ліпень**

3 ліпеня ў Мінску міліцыя гвалтоўна разагнала мірную акцыю пратэсту на Прывакзальнай плошчы. Месцамі асобы ў цывільным прымянялі супраць удзельнікаў акцыі і журналістаў балончыкі з газам. Толькі ў Мінску затрымалі каля 200 чалавек.

Міністэрства інфармацыі нечакана адклікала пазовы да «Нашай Нівы» і «Народнай волі».

На 2-м рудаўпраўленні «Беларуськалія» ў шахту праравалася вада. Ліквідацыя наступстваў аварыі заняла некалькі месяцаў, інфармацыю пра яе першапачаткова замоўчвалі.

22 ліпеня ў Нарвегіі тэрарыст-адзіночка Андэрс Брэйвік здзейсніў выбух каля ўрадавых будынкаў. Загінулі 8 чалавек. Потым ён скіраваўся на востраў Утоя, дзе расстраляў 76 чалавек, пераважна моладзі, удзельнікаў летняга палітычнага лагера.

**Жнівень**

4 жніўня ў Мінску арыштаваны праваабаронца Алесь Бяляцкі. Яго абвінавацілі ў невыплаце падаткаў у асабліва буйных памерах. Як стала вядома пазней, афіцыйныя інстанцыі Літвы выдалі беларускаму КДК інфармацыю пра рахункі Бяляцкага ў літоўскіх банках, куды паступалі грошы для дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій.

На свабоду выйшлі першыя палітвязні, асуджаныя за Плошчу-2010.

6 жніўня ў Лондане ўспыхнулі масавыя беспарадкі, якія перакінуліся на іншыя гарады краіны. Прычынай стала смерць 29-гадовага гангстара ў перастрэлцы з паліцыяй.

У Лівіі абрынуўся рэжым Муамара Кадафі. Дыктатар і яго паплечнікі сышлі ў падполле, грамадзянская вайна на гэтым не спынілася.

**Верасень**

7 верасня ў Расіі пад Яраслаўлем разбіўся самалёт Як-42, у якім ляцела мясцовая хакейная каманда. Загінулі 44 чалавекі. У тым ліку і беларусы: Руслан Салей, Сяргей Астапчук і Мікалай Крываносаў.

14 верасня Нацбанк абвясціў «рынкавы курс» долара — 8000 рублёў. У абменніках з'явілася валюта.

15 верасня пачаўся адкрыты судовы працэс па справе тэракту ў метро.

У Расіі было прынятае рашэнне аб вылучэнні кандыдатам на прэзідэнцкія выбары дзейнага кіраўніка ўрада Уладзіміра Пуціна.

**Кастрычнік**

Апублікаваны праект закона «Аб органах дзяржаўнай бяспекі» і змены ў Крымінальным кодэксе. Згодна з імі КДБ атрымаў нашмат шырэйшыя паўнамоцтвы для здушэння палітычных апанентаў.

Рост цэнаў і падзенне заробкаў выклікалі шэраг забастовак на прадпрыемствах краіны. Адна з іх прайшла ў Барысаве. Каля сотні працаўнікоў УП «Жыллё» два дні не выходзілі на працу і дамагліся павышэння заробкаў.

20 кастрычніка ў Лівіі ў перастрэлцы быў паранены і потым схоплены Муамар Кадафі. Ён памёр ад ранаў, не даехаўшы да бальніцы.

**Лістапад**

Лукашэнка, Мядзведзеў і Назарбаеў падпісалі дэкларацыю аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі.

«Белтрансгаз» канчаткова перайшоў на ўласнасць Расіі. У абмен Беларусь атрымала істотныя зніжкі цаны на прыродны газ.

9 лістапада ў Беларусі набыць валюту стала магчымым толькі па пашпарце — краіна вярнулася да практыкі 1997—2006.

30 лістапада Вярхоўны Суд прыгаварыў Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва да смяротнага пакарання.

**Снежань**

Гадавіна падзей 19 снежня 2010 года ў Мінску абярнулася затрыманнямі дзясяткаў людзей, якія выйшлі на плошчы сталіцы.

Актывісткі ўкраінскага руху Femen зладзілі перформанс з раздзяваннем на прыступках КДБ у Мінску. Акцыя скончылася для дзяўчат выкраданнем і вывазам на мяжу з Украінай. МУС, КДБ і Памежны камітэт заявілі пра сваю недатычнасць да гэтага.

16 снежня ў казахскім горадзе Жанаазэн успыхнулі масавыя беспарадкі. Паліцыя і войскі разагналі акцыю пратэстаў нафтавікоў, які, пратэставалі 7 месяцаў. Паафіцыйнай інфармацыі падчас разгону загінулі 13 чалавек, паводле неафіцыйнай — да 70 чалавек.

17 снежня памерлі былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавэл і кіраўнік Паўночнай Карэі Кім Ір Сэн.

**Падрыхтаваў Сямён Печанко**

### Яны адышлі ад нас за 2011 год

**Уладзімір Бабарыка** — журналіст
**Віталь Тарас** — журналіст, публіцыст
**Аляксандр Радзівонаў** — баскетбаліст
**Павел Урбан** — колішні дырэктар беларускай службы радыё «Свабода»
**Іван Цэдрык** — грамадскі актывіст, Слуцк
**Ян Збажына** — паэт
**Ані Жырардо** — французская акцёрка
**Валерый Рубінчык** — рэжысёр
**Аляксандр Грыцанаў** — філосаф
**Святлана Навумава** — палітолаг
**Янка Сіпакоў** — пісьменнік
**Рыд Таліпаў** — рэжысёр
**Раман Пентка** — уніяцкі архімандрыт
**Элізабет Тэйлар** — акцёрка
**Іван Лагвіновіч** — паэт, Баранавічы
**Мікалай Бірукоў** — сябра Беларускага згуртавання вайскоўцаў
**Юрый Заяц** — археолаг
**Алесь Жаўкоўскі** — краязнаўца, Ліда
**Аляксандра Гесь** — архівістка
**Станіслаў Галакціёнаў** — навуковец
**Сяргей Лагун** — цяжкаатлет
**Вольга Дашкевіч** — мама лідара «Маладога фронту» Змітра Дашкевіча
**Міхаіл Казакоў** — расійскі акцёр
**Валянціна Коўтун** — пісьменніца
**Усама бен Ладэн** — лідар «Аль-Каіды»
**Ядвіга Раманоўская** — пляменніца Янкі Купалы
**Васіль Шчэцька** — дзеяч эміграцыі, ЗША
**Рамуальд Клім** — алімпійскі чэмпіён 1964
**Уладзімір Конан** — філосаф
**Павел Місько** — пісьменнік
**Віталь Сіліцкі** — палітолаг
**Святлана Явар** — пісьменніца
**Юрась Малаш** — мастацтвазнаўца
**Алена Бонэр** — удава Андрэя Сахарава
**Эдуард Мазько** — гісторык
**Віктар Цемушаў** — гісторык
**Пітэр Фальк** — амерыканскі акцёр
**Ефрасіння Бондарава** — кінакрытык
**Раман Тармола-Мірскі** — паэт
**Сямён Халіпскі** — баскетбольны спецыяліст
**Уладзімір Крушкін** — сябра Партыі БНФ, Магілёў
**Казімір Свёнтак** — каталіцкі кардынал
**Ірына Палянская** — спявачка
**Міхась Лужынскі** — дзеяч эміграцыі, Аўстралія
**Мікалай Пятроў** — расійскі піяніст
**Ядвіга Грыгаровіч** — рэктарка Універсітэта культуры
**Анджэй Лепер** — польскі палітык
**Яраслаў Звяруга** — археолаг
**Якаў Трашчанок** — гісторык, настаўнік Лукашэнкі
**Уладзімір Грыгор'еў** — былы пасол Беларусі ў Расіі
**Мікола Сташкевіч** — гісторык
**Віталь Скалабан** — гісторык, архівіст
**Аляксандр Станюта** — літаратуразнаўца
**Руслан Салей** — хакеіст
**Сяргей Астапчук** — хакеіст
**Мікалай Крываносаў** — хакейны трэнер
**Надзея Траян** — адна з арганізатарак забойства Кубэ
**Галіна Самдзянава** — дэпутат Вярхоўнага Савета
**Стыў Джобс** — стваральнік Apple
**Анатоль Казловіч** — журналіст
**Юлія Шатэрнік** — журналістка
**Анатоль Лук'янчык** — дзеяч эміграцыі, ЗША
**Сігізмунд Барадзін** — гісторык, выкладчык
**Муамар Кадафі** — лівійскі дыктатар
**Алег Бoрын** — мастак, сябар КХП-БНФ
**Мікалай Сцепасюк** — сацыял-дэмакрат, Ліда
**Валянцін Іваноў** — расійскі футбаліст і трэнер
**Анатоль Белы** — грамадскі дзеяч
**Валерый Раеўскі** — рэжысёр Купалаўскага тэатра
**Элеанора Вецер** — мастацтвазнаўца
**Ірына Бугрова** — палітолаг
**Сэзарыя Эвара** — спявачка
**Вацлаў Гавэл** — былы прэзідэнт Чэхіі
**Кім Чэн Ір** — паўночнакарэйскі дыктатар

**Падрыхтаваў ЗП**

# Чым расійскія мітынгі адрозніваюцца ад беларускіх

**У Расіі шырыцца рух за перамены.**

Расія б’е рэкорды па колькасці мітынгоўцаў. На праспект Сахарава ў Маскве, патрабуючы вольных выбараў, выйшла 70 тысяч чалавек.

Многія дзівяцца крэатыўнасці і шматлікасці мітынгу расійскай апазіцыі. Маўляў, даўно ў Беларусі не было нічога падобнага. Аднак, калі разабрацца, беларускім і расійскім апазіцыянерам даводзіцца існаваць у розных рэальнасцях.

### 1. СМІ

Пасля акцый на Балотнай плошчы і праспекце Сахарава на цэнтральных расійскіх тэлеканалах выйшлі аб’ектыўныя рэпартажы аб мерапрыемствах. Ніхто не называў мітынгоўцаў «пятай калонай» і «адмарозкамі», а таксама не замяншаў колькасць удзельнікаў.

За 17 гадоў кіравання Лукашэнкі беларускія каналы ніводнага разу не далі нават нейтральных сюжэтаў пра акцыі апазіцыі. Гэтая завядзёнка настолькі моцна засела ў нашых тэлевізійніках, што нават пра акцыю 24 снежня ў Маскве сказалі, што там было некалькі соцень чалавек. Што выклікала смех у расійскім інтэрнэце.

### 2. VIP-персоны

Мітынг у Маскве вялі каментатар Васіль Уткін і журналістка Вольга Раманава. Людзі прафесійныя, якія ўмеюць працаваць на вялікую публіку.

Уявім сітуацыю ў нас, калі мітынг апазіцыі правялі б, скажам, каментатар Уладзімір Навіцкі і тэлевядучая Каліна Вардомская. Ці змаглі б яны надалей працаваць на тэлебачанні? Прыклад з Сяргеем Дарафеевым, які дазволіў сабе усяго толькі лёгкі плюралізм, сведчыць, што наўрад ці.

Тое самае тычыцца і іншых вядомых асобаў, як свецкая львіца Ксенія Сабчак, ці пісьменнік Барыс Акунін, ці музыка Юрый Шаўчук. У Беларусі выступ на мітынгу вядзе да адназначнага пападання ў «чорныя спісы» і страты працы. У Расіі ім гэта не пагражае.

### 3. Міліцыя

І на Балотнай, і на праспекце Сахарава абышлося без затрыманняў. Акцыі былі дазволеныя. Прычым, на годных пляцоўках. Балотная знаходзіцца праз Маскву-раку ад Крамля, а на праспекце Сахарава свае мерапрыемствы праводзіць расійскі БРСМ «Нашы».

Хаця самі арганізатары прасілі Трыумфальную плошчу. Зрэшты, гэта як у нас прасіць Кастрычніцкую, а выніку атрымаць плошчу Якуба Коласа, але ніяк не ганебную Бангалор.

**«Не быць скотам» у Маскве**

Перад пачаткам прамоваў, а таксама напрыканцы мітынгу ў Маскве арганізатары ўключалі хіты «Ляпіса Трубяцкога» «Не быць скотам» (па-беларуску), а таксама «Маніфест». Гучала і ўкраінская музыка ад «Вопляў Відаплясава» «Я не здамся без бою».




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**На мітынгу ў Маскве неслі і плакат з Лукашэнкам.**

Апроч «Маршаў нязгодных», расійская апазіцыя даўно не мела вулічных акцый. Для многіх гэты пратэст стаў першым у жыцці. Таму і важна было захаваць мірнасць. З паліцыяй удалося дамовіцца. Мітынгі прайшлі мірна, без збіцця і арыштаў.

### 4. Атрыбутыка

Кінулася ў вочы, што людзі ў Маскве прыйшлі на мітынг з мностввам самых розных плакатаў, расцяжак, сцягоў. У Беларусі часта бывае, што на мерапрыемстве няма ніводнага крэатыўнага лозунга. Чаму так? Таму што спецназаўцы выдзіраюць такія транспаранты з рук мітынгоўцаў. А маніфестантаў са сцягамі затрымліваюць, каб «не стварылі карцінку». Вось і адвучылі браць з сабой атрыбутыку.

### 5. Словы

Выступоўцы ў Маскве не надта выбіралі словы, каб выказаць свой пратэст. Як толькі не называлі Пуціна і Мядзведзева: і карлікамі, і бандэрлогамі. Што ўжо казаць пра звыклыя «жулікі і воры». Гэта заўважна кантраставала з беларускімі прамоўцамі. Якія больш асцярожна выбіраюць словы для прамаўлення.

Вядома, артыкул 368 КК «Абраза прэзідэнта» ніхто не адмяняў. Маркевіча, Мажэйку, Клімава асуджалі нават за меншае, чым гаварылі ў Маскве.

**Зміцер Панкавец**

# Парфёнаў: Пуцін — гэта Брэжнеў XXI стагоддзя

**Тэлевядучы Леанід Парфёнаў — другі па папулярнасці прадстаўнік расійскай апазіцыі. Саступае толькі блогеру Аляксею Навальнаму.**



**Леанід Парфёнаў**

нарадзіўся ў 1960 у Чарапаўцы (поўнач Расіі). Журналіст, вядучы папулярных тэлеперадач «Наконадні», «Расійская імперыя». Лаўрэат прэстыжных прэмій «Тэфі» і імя Уладзіслава Лісцьева.

Прапануем Вашай увазе зварот Парфёнава да ўдзельнікаў мітынгу 24 снежня.

Новы год набліжаецца — вынікі года прынята падводзіць, планы на будучае будаваць. І доўгія канікулы дадуць для гэтага вольны час. Новы палітычны год, які адразу ж стаў старым, пачаўся 24 верасня, калі тандэм абвясціў, што Пуцін вяртаецца. Да гэтага яшчэ былі надзеі, што будзе другі тэрмін Мядзведзева. І тады хаця і крывая, але нейкая лінія на лібералізацыю прывядзе да выбараў, больш-менш падобных да людскіх, праз шэсць гадоў.

Але гэтая сістэма не здольная мяняцца, яна здольная толькі паўтараць сябе, толькі застой. Таму, уласна, і змяніліся настроі людзей. Нават тыя, хто ўдзячны Пуціну за 2000-я гады, яны не хочуць іх паўтарэння ў 2010-х. Досыць, бачылі, хопіць, надакучыў, трэба рухацца далей! Пуцін ва ўладзе — 12 гадоў. Яшчэ шасцігадовы тэрмін — і будзе васямнаццаць. Роўна столькі доўжылася праўленне Брэжнева, а яно здавалася бясконцым.

І пуцінскія дванаццаць гадоў — сённяшні стаж — гэта брэжнеўскі 1976 год, калі пачаліся ўсе гэтыя Зоркі Героя, маршальскія зоркі. І Брэжнеў ператварыўся ў звычайным разуменні ў героя анекдотаў. Акурат такое ж стаўленне да Пуціна цяпер у інтэрнэце. Як цяпер здзекуюцца з чарговай дэманстрацыі пуцінскага торса, так тады, больш за трыццаць гадоў таму, здзекаваліся з чарговай Зоркі Героя Брэжнева. З розніцай, што адзін раздзяваецца, а другі тады адзяваўся.

Але эпапея «Пуцін-2» — гэта, вядома, не на адзін тэрмін. Калі ўжо цяпер няма альтэрнатывы, то праз шэсць гадоў тым больш не з’явіцца, калі ўсё даўным-даўно закатана ў асфальт. У Еўропе, акрамя Расіі, толькі Беларусь так цалкам залежыць ад уладалюбства і стану здароўя аднаго чалавека. Вось у якой кампаніі мы апынуліся.

Мне ў ЖЖ напісалі: да чаго дакацілася краіна, калі адзінае патрабаванне насельніцтва да ўлады — сумленнасць. І ўлада, калі збіраецца зрабіць нейкія тут крокі, то лічыць, што яна ідзе на саступкі. Ну добра, Пуцін не баіцца ўвайсці ў гісторыю Брэжневым XXI стагоддзя. Людзям тады што рабіць?

Гэта ўлада сабе прыдумляе сімуляцыю: замест народа — Народны фронт, замест грамадства — Грамадская палата, выбраныя акурат праз гэтыя прэзідэнцкія фільтры. Затое цяпер, увосень, Расія выйшла на першае месца ў Еўропе па колькасці карыстальнікаў інтэрнэтам. А нацыянальны лідар напышліва заяўляе, што ён у інтэрнэт ніколі не заходзіць. Канечне, пры такой сітуацыі можна лічыць вынікі афіцыйных выбараў перавагамі, палітычнымі поглядамі расіянаў. Калі за народ лічыць Народны фронт, то можна паверыць і ў 99,5 Адзінай Расіі.

Я, праўда, не бачу іншага шляху акрамя аб’яднання выбарцаў, то бок грамадзян, якія галасуюць свядома. Хоць праз Фэйсбук аб’яднанне: я, ты, ён, яна — разам 400 фрэндаў выразшулі, што ён запішацца на трэнінгі і будзе назіральнікам, яна, юрыстка, будзе позвы падаваць, гэты звязваецца з іншымі энтузіястамі, скаардынаваліся на ўзроўні раёна, горада. Калі будзе такі ціск знізу, то супольная структура зверху хутка сама з’явіцца. Гэтая прызначаная пуцінская эліта, наменклатура партыі жулікаў і вораў, — адзіныя атрымальнікі карысці ад бясконцага захоўвання статус-кво.




**Расейцы крэатывяць.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Досыць, бачылі, надакучыў, трэба рухацца далей »

Сярод іх «распілаў» і «адкатаў» з гэтага ўсеўладдзя чыноўнікаў, бясчынства сілавікоў мільёны людзей не атрымліваюць шансу на самарэалізацыю, на кар’еру, на цікавую годную працу, на годную аплату. І ўсё гэта сярод хлусні, якая раз’ядае, разбэшчвае, і прыстасавання. Акурат як у брэжнеўскія часы. Высоцкі яшчэ пра гэтую тугу 70-х пісаў, што «Мы тоже дети страшных лет России/ Безвременье вливало водку в нас». Канечне, Расія вычарпала ліміт на рэвалюцыі. Не дай Божа! Але ж і ліміт на застой вычарпаны. І ўжо тады сапраўды адстанем назаўжды. Таму з Новым годам, і каб ён сапраўды быў новым, а не старым.

# Прэс-шоу



У адказ на вострыя пытанні Лукашэнка **пагражаў і папракаў**.

Пры канцы снежня Лукашэнка традыцыйна ладзіць выніковую прэс-канферэнцыю. Сёлета яна вызначалася тым, што на яе запрасілі шматлікія недзяржаўныя СМІ.

Мерапрыемства праходзіла ў Нацыянальнай бібліятэцы. Толькі заходзіць трэ было не з галоўнага ўваходу, а з боку рэстарана «Мегаполіс». Служба бяспекі прэзідэнта асабліва не лютавала, нават на футболе часам ператрасаюць больш жорстка.

Давялося прайсці праз металашукальнік, а вось у заплечнік нават не зазіралі. Не прапусцілі толькі графа Аляксандра Прушынскага, хоць той і лямантаваў з польскім акцэнтам «Аляксандр Грігор'евіч мяне знае».

Падымаешся на паверх вышэй, дзе і знаходзіцца вялізная, больш чым на 500 месцаў, канферэнц-зала. На сцэнцы ўжо вісеў план, дзе павінны сесці журналісты. Першыя шэрагі за Мінскай і Магілёўскай абласцямі, апошнія — за рэспубліканскімі выданнямі. У тым ліку і недзяржаўнымі.

Месцы ў зале яшчэ заставаліся, і, відаць, для ўзняцця настрою ў памяшканне запусцілі з 40 маладых дзяўчат, якія расселіся на пустуючыя крэслы.

Пачатак трошку нагадваў зрэжысаванае шоу. Першае пытанне ад СТВ: як бы вы ацанілі сыходзячы год, падвялі яго вынікі? Наступныя пытанні таксама, бы на падбор, пра самыя важныя падзеі года, што б узялі з сабой з года мінулага ў наступны.

З рытуальнай часткай на гэтым было скончана. Перакazваць адказы на пытанні, відаць, не мае сэнсу. Лукашэнка не сказаў нічога прынцыпова новага ў параўнанні з мінулымі сваімі заявамі.

Здзівілі некаторыя пытанні ад дзяржаўных журналістаў. Ганна Капшуль з «Весніка Глыбоччыны» запыталася пра стан беларускай мовы — у адказ Лукашэнка шмат разоў паўтарыў «я Вас не папракаю» і «я не стану Вас асуджаць за Вашу пазіцыю». Хлопец з АНТ выказаўся за адмену смяротнага пакарання, а з «Рэспублікі» — выказаў непакой за беларускую незалежнасць пасля продажу «Белтрансгаза».

Незалежныя выданні, як выказаўся Лукашэнка, «задаўбалі» яго пытаннямі пра палітвязняў. А тут яшчэ Валянюк з «Советской Белоруссии» дадаў зверху. Цікава, што Валянюк кінуўся да мікрафона ў самым пачатку прэс-канферэнцыі, але пасля нейкай запіскі ад міністра інфармацыі Алега Праляскоўскага сеў назад у залу і ўзняўся толькі пры канцы.

Усяго прэс-канферэнцыя цягнулася чатыры гадзіны. Факусаваць увагу на словах кіраўніка дзяржавы столькі часу — справа нялёгкая.

Зноў пэўнай тэатральнасцю павеяла, калі апошнім пытанне дня задавала салігорская «раёнка» пра тое, што Лукашэнка падарыць малодшаму сыну на Новы год. Выявілася, што найлепшы падарунак для яго — зброя. Хай і пнеўматычная.

**Зміцер Панкавец**

## Топ-5 выказванняў Лукашэнкі

**Новыя перлы**, што падарыла прэс-канферэнцыя 23 снежня.

- У гэтыя крызісныя часы я не купляў клюшку і не купляў канькоў. У мяне запас быў нармальны.
- Ім патрэбны бунт! Бунт у парламенце, плошчы, барацьба, палкі, палены, калы ў акно, прырэзаць, задушыць, зарэзаць. Гэта іх стыль.
- Мы атрымалі добры ўрок на будучыню. Госпад ударыў нас па галаве і сказаў: «Не гарэзнічайце. Жыць трэба па сродках».
- Кепскаму танцору адсутнасць яец заўсёды замінала — таму і адсутнічаюць.
- Калі ўжо маіх пацаноў зрабілі невыязнымі і малое дзіця, так што ад іх большага хацець? Ён што, 19 снежня з дубінкай размахваў на плошчах ці фальсіфікаваў выбары?

## Дзе Лукашэнка сказаў няпраўду

Кіраўнік дзяржавы на прэс-канферэнцыі некалькі разоў абвінавачваў у хлусні сваіх уяўных апанентаў. Аднак Аляксандр Лукашэнка наўмысна ці незнарок **сам не раз казаў няпраўду**. Прапануем падборку.

### Гіганцкія заробкі ў Беларусі

**Лукашэнка:** «Нашым людзям заўсёды трэба ўзважваць. Адна справа — працаваць тут, няхай за $1000, іншая — у Маскве за $2000».

**На справе:** Па дадзеных Белстата, у сярэднім беларусы зарабляюць $280. Тых, хто мае больш за $1000, па апошніх звестках (апытанні праводзіліся толькі ў ліпені) менш за 2%.

### Дадатнае сальда з Расіяй

**Лукашэнка:** «У нас азначыліся вельмі добрыя ў апошнія месяцы, нават паўгода, тэндэнцыі па гандлёвым балансе ... З Расіяй мы выйшлі на станоўчае сальда».

**На справе:** Дадзеныя за студзень-кастрычнік 2011 сведчаць, што імпарт расійскіх тавараў перавышае экспарт на гіганцкія 8,3 мільярда. Прычым статыстыка апошніх месяцаў выглядае не лепш. Жнівеньскі гандаль таварамі даў краіне мінус 407 мільёнаў, верасень — яшчэ мінус 610 мільёнаў. Нарэшце, у кастрычніку Беларусь аказалася ў мінусе на мільярд даляраў.

### Удзельнікі Плошчы

**Лукашэнка:** «На Плошчы каля Дома ўрада было каля 3 тысяч чалавек. Як толькі першы амапавец ступіў нагой на плошчу, засталіся ці то 400, ці то 450 чалавек, якіх мы затрымалі»

**На справе:** На Плошчы-2010 сабраліся дзясяткі тысяч чалавек, што зафіксавана на фота і відэа. Затрыманых — па міліцэйскіх зводках — было 639 чалавек.

### Неўязны Коля

**Лукашэнка:** Калі ўжо маіх пацаноў зрабілі невыязнымі і малое дзіця, дык што ад іх большага хацець? Ён у чым вінаваты? Ён што, 19 снежня з дубінкай размахваў на плошчах ці фальсіфікаваў выбары?

**На справе:** У спісе неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза ёсць Аляксандр Лукашэнка (№1), Віктар Лукашэнка (№41), Дзмітрый Лукашэнка (№155). Але Мікалая Лукашэнкі ў ім няма.

**Ягор Марціновіч**



## Журналістка Лукашэнку: «Я адмоўлюся»

Фурор выклікала пытанне журналісткі «Народнай волі» **Марыны Коктыш**.

**Коктыш:** «Скажыце, а Вы маглі б адкінуць нейкія асабістыя злосць, крыўду...»

**Лукашэнка [перабіваючы]:** «Марыя, у мяне няма да Вас ніякай злосці. Вы што? Я да Вас добра стаўлюся. Сімпатычная дзяўчына. Чаму я на Вас павінен злавацца? Адразу на мяне — злосць, злосць. Няма ў мяне злосці на Вас».

**Коктыш:** «У такім выпадку, ці маглі б Вы проста цяпер, сёння ці заўтра зрабіць так, як зрабіў бы сапраўдны мужчына. Як зрабіў бы палітык, які нібыта сумленна выйграў выбары і які нічога не баіцца... Адпусціце Саннікава, Статкевіча. Вы мілавалі тых, хто краў мільёны, а гэтых людзей адпусціць чамусьці не можаце. Вы кажаце, што яны абавязкова павінны ўкленчыць перад Вамі і напісаць прашэнне. Няўжо ад гэтага Вам будзе лягчэй? Можа быць, падтрымаюць Ваша рашэнне і многія з тых, хто не з'яўляецца Вашымі прыхільнікамі, і паглядзяць на Вас па-іншаму.



**Вы мілавалі тых, хто краў мільёны, а Статкевіча адпусціць не можаце**

І я хацела ўдакладніць. Вы не раз гаварылі, што пакінеце крэсла, калі зразумееце, што Вас не падтрымлівае большасць. Я хацела б удакладніць, а як Вы гэта адчуеце? Бо ў краіне няма незалежнага тэлебачання, апазіцыя не бывае на беларускім тэлебачанні, у краіне не працуюць незалежныя сацыялагічныя цэнтры, прыняты закон — больш за трох не збірацца. Скажыце, што павінна адбыцца ў краіне, каб Вы склалі з сябе прэзідэнцкія паўнамоцтвы, усталі і сказалі: «Я сыходжу»? Што яшчэ павінна адбыцца?»

**Лукашэнка:** «Дзякую, Марына, за пытанне. Што тычыцца адпусціць. Напэўна, Вы праслухалі адказ: двойчы я адказваў на гэта пытанне».

**Коктыш:** «Я хачу зразумець, ці будзе Вам лягчэй спаць, калі гэтыя людзі напішуць...»

**Лукашэнка:** «Каб зразумець, як я сплю, са мной трэба спаць. Разумееце? Прабачце, я не прапаноўваю гэта Вам».

**Коктыш:** «Дзякуй, я адмоўлюся».

Далей Лукашэнка пачаў доўгі адказ. Ён стаў расказваць пра пачатак 1990-х, сказаў, што не дапусціць такога хаосу.

А наконт сыходу: «Я сыду тады, калі прайграю на выбарах». «Як толькі вы мне на выбарах скажыце «не», я сыду. Вось большасць прагаласуе, і заўтра Лукашэнкі не будзе».

Затое ён пагрозліва нагадаў Марыне Коктыш і ў яе асобе ўсёй «Народнай волі»: «Запомніце, калі вы будзеце парушаць закон, вы будзеце несці персанальную адказнасць».

# Святы Мікалай, пралятаючы над Беларуссю, скінуў падарункі ў раёне Пінска

**Шлях Санта-Клаўса** штогод адсочваюць вайскоўцы.



Стартаваў Санта з Усходняй Аўстраліі і Новай Зеландыі. Потым надышла чарга Далёкага Усходу Расіі, Японіі, Кітая. Не забыў нават Сейшэлы, вярнуўся на Паўночны Полюс (відаць, па чарговую порцыю), завітаў нават на Касмічную станцыю.

У Беларусь Святы Мікалай завітаў прыкладна ў 00.15—00.17, абдарыўшы перад гэтым дзяцей з Фінляндыі (Хельсінкі), Эстоніі (Тарту), Латвіі (Валміера) і Літвы (Шаўляй).

Пралятаючы над нашай краінай, ён скінуў падарункі над Пінскам, а потым шыбануў у паўднёвым кірунку (Кіраваград, Украіна; Кішынёў, Малдова).

Перамяшчэнне Святога Мікалая насамрэч адсочваюць вайскоўцы ЗША, анлайн можна сачыць на сайце noradsanta.org.

Дакладнасць палёту забяспечваюць спадарожнікі на геастацыянарнай арбіце, абсталяваныя інфрачырвонымі датчыкамі. Яны ўлоўліваюць цеплавое выпраменьванне, якое сыходзіць ад чырвонага носа аленя Рудольфа.

Калісьці памылкова тэлефон ваеннай базы Пітэрсан у ЗША быў дадзены ў прэсе і ўсю ноч на 25 снежня на базу тэлефанавалі дзеці, цікавячыся шляхам Святога Мікалая.

Вайскоўцам нічога не заставалася, як цярпліва паведамляць дзецям шлях Санты, а з таго часу адсочванне шляху вайскоўцамі (а цяпер — NASA) стала традыцыяй.

**Алег Гардзіенка**

**Фотапазітыў**



**У заапарку Sriracha Tiger Zoo ў тайскай правінцыі Чанбуры маленькіх тыгранятаў, якіх гадуе свіння, апранулі ў касцюмы Сантаў.**

## Першая ахвяра швейцарскай электрычкі

Трагедыя **здарылася ў Баранавічах**. Следчыя мяркуюць, што пенсіянерка не пачула набліжэння цягніка.

«Як распавялі сваякі загінуўшай, пенсіянерка не бачыла на адно вока, таксама ў яе былі праблемы са слыхам. Гледзячы па ўсім, з-за гэтага яна і не пачула гуку падыходзячага цягніка», — патлумачыла памочнік пракурора.

Электрацягнік Stadler на гэтым участку дарогі рухаўся з хуткасцю 100 км/г.

**ЛМ**

# «Партызан» пайшоў на паклон да «Газпрама»

Мэтай з'яўляецца **спонсарская дапамога.**

Як стала вядома Football.by, кіраўніцтва мінскага клуба «Партызан» вядзе перамовы з ААТ «Газпрам».

Расійскі холдынг супрацоўнічае з «Зенітам», нямецкім «Шальке-04», бялградскай «Црвенай Звездай», расійскімі клубамі ў розных відах спорту. Апошняй навіной стала жаданне Аляксея Мілера і кампаніі наладзіць у будучыні супрацоўніцтва з топ-клубам — мюнхенскай «Баварыяй».

Дарэчы, расіяне могуць фінансаваць клуб не прамымі датацыямі, а апасродкавана праз «Белтрансгаз», на балансе якога ўжо ёсць слонімскі футбольны клуб з аднайменнай назвай.

На дадзены момант аб ходзе перамоваў вядома няшмат, аднак бакі могуць прыйсці да агульнага пагаднення ў бліжэйшы час.

Нагадаем, некаторы час таму ўладальнік «Партызана» літоўскі бізнесмен Уладзімір Раманаў адмовіўся ад фінансавання клуба, прапанаваўшы кіраўніцтву знайсці новыя крыніцы для існавання.

**Football.by**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Мосцік над вечнасцю

Усё ж такі ёсць нешта настальгічнае ў святе Новага года. Асабліва з цягам жыцця. У дзяцінстве нас прывабліваюць казкі і падарункі, у маладосці, ды і ў сталым узросце, усё яшчэ нешта мроіцца наперадзе, нейкі цуд...

Не ведаю, ці мроілася што старым, амаль двухсотгадовым ліпам у парку імя Горкага, калі ў іх безабароннае цела ўразаліся бензапілы — я ўбачыў толькі агромністыя, без аніякіх слядоў гніласнай гангрэны, круглякі, раскіданыя па зямлі ўздоўж схаладнелага восеньскага ручая. Цяжка верылася ў тое, што гэтым дрэвам наканавана было памерці пад націскам ветру, нават ураганнага, што яны толькі і чакалі эўтаназіі, незваротнага смяротнага часу...

Я намагаўся падлічыць гадавыя колцы на зрэзах і думаў пра тое, што ў гэтых адбітках доўгага жыцця хаваецца і жыццё многіх пакаленняў мінчукоў, у тым ліку майго. Навошта ж, падумаў я тады, было так бязлітасна абрываць калі не мроі старых дрэў, дык іх успаміны?

Успаміны пра тыя часы, калі яны былі яшчэ дрэўцамі Губернатарскага саду, потым дрэвамі саду «Прафінтэрн», потым «Парку культуры і адпачынку імя Горкага», а потым і Цэнтральнага дзіцячага парку ўсё таго ж імя «вялікага сябра беларускіх дзяцей»...

Успаміны пра тое, як пасля апошняй вайны, недзе напрыканцы 40-х гадоў, людзі ў кепках, пінжаках з хлясцікамі і галіфэ са скуранымі латамі ўпершыню вялі ад Таварнай станцыі праз увесь зруйнаваны горад сланоў, падобных на аэрастаты, — туды, у парк, дзе ўжо разгарнуў свой шэры шацёр, упрыгожаны рознакаляровымі сцяжкамі і гірляндамі лямпачак, цырк шапіто...

Потым пабудавалі новы цырк, а на месцы, дзе раз на год узнікаў цырк шапіто са сланамі, з ліліпутамі і клоўнам

### Навошта так бязлітасна абрываць мроі старых дрэваў

Карандашом, з'явіўся драўляны, упрыгожаны разьбой, кінатэатр «Летні», пабудаваны, мусіць, замест і ў перайманне кінатэатра «Першы». На той час «Першы» ўжо разбурылі, на яго месцы падрастаў гатэль «Мінск». У «Першым», што застаўся ад немцаў, памятаю амаль усе фільмы ранняга дзяцінства, усе «Тарзаны», «Падзенне Берліна», «Аляксандра Матросава»... Памятаю нават, як зручна, з нямецкай разважлівасцю, былі пастаўлены крэслы — кожнае якраз пасярэдзіне двух пярэдніх, каб усім усё было відаць, нават дзецям. А вось у «Летнім»... Цьмяна памятаю нейкія індыйскія фільмы, якія абрынуліся на савецкі экран пасля хрушчоўскага «бхай-бхай...». Але гэта пазней, напачатку 60-х. А вось мarожанае ў цёмнай прахалодзе залы і яе перарывістае дыханне — памятаю.

Потым кінатэатр згарэў.

Але засталіся танцы пад духавы аркестр, лаўкі ў самых зацішных — такіх у парку цяпер і няма — кутках...

А бясконцыя колы па велатрэку? Самага першага, між іншым, аж з пачатку XIX стагоддзя, спартовага збудавання ў горадзе. Ад Заходняга моста на «Арлёнку» (быў такі падлеткавы ровар), потым, рулюючы ад праспекта да Дома афіцэраў і, адпусціўшы тармазы, з вар'яцкай хуткасцю па бруку на падвесны мосцік над Свіслаччу, ён жа ўваход і ўезд у парк... А вы кажаце — экстрым...

Асобна — каток. Адзіны ў горадзе. На стадыёне — не хачу нават удакладняць, як ён зараз завецца, — а тады на парасейску «Пищевик», дзе летам гулялі футбол, а ўзімку тыя ж каманды біліся ў хакей з мячом, можа, і з шайбай. Не, з мячом... Увечары ў прамерзлым да шэрані баракураздзявальні не прапіхнуцца, холад сабачы. Адзінае выйсце — абуць канькі ў хаце, і ўсё ад таго ж Заходняга моста па абледзянелых тратуарах паблізу вакзала ўздоўж трамвайных пуцёў... А вось там, у парку, заклаўшы руку за спіну, на бліскучых нарвежскіх «нажах», замяніўшых «снягуркі», якія прычапляліся да валёнак з дапамогай драўляшак, па-сапраўднаму наразаць кругі, рызыкуючы трапіць у расколіну альбо сутыкнуцца з кімсьці, хто таксама заглядзеўся на цэнтр катка, дзе, узяўшыся за рукі, выпісвалі свае павольныя «па» знаёмыя дзяўчынкі. Кола за колам, пад завіруху ў святле ліхтара, пад «воды арыка бегут как живые», пад першае, а для кагосьці адзінае каханне...

...Аднойчы ўвосень, у самы багровы колер, узняліся мы з унучкай — яна ўпершыню — на коле агляду. Над горадам, над старымі, яшчэ не спілаванымі, дрэвамі парку... «Якое шчасце! Якое шчасце!» — у захапленні паўтарала ўнучка, упершыню адчуўшая такую *страшэнную* вышыню.

Больш за ўсё з гэтай вышыні мне шкада зніклага падвеснага драўлянага мосціка праз Свіслач. Ён так хістаўся і паскрыпваў пад нагамі...

Жыццё, падумаў я тады, таксама мосцік. Мосцік над вечнасцю, ідучы па якому, нашы дзеці і ўнукі становяцца намі...

Часам, праўда, думаючы, што яны лепшыя за нас.

### Студзень
1 — Новы год.
1 — 75 гадоў спаўняецца Станіславу Багданкевічу, эканамісту, першаму кіраўніку Нацбанка Беларусі, бацьку нацыянальнай валюты.
6 — Тры каралі ў каталікоў; Вадохрышча ва ўніятаў.
7 — Раство Хрыстова ў праваслаўных.
19 — Вадохрышча ў праваслаўных.

### Люты
2 — Грамніцы ў каталікоў, уніятаў.
7 — 200 гадоў таму нарадзіўся англійскі пісьменнік Чарльз Дзікенс.
14 — Дзень Святога Валянціна.
15 — Грамніцы ў праваслаўных.
21 — Міжнародны дзень роднай мовы.
22 — Папялец у каталікоў.
26 — Масленіца ў праваслаўных.

### Сакавік
6 — 75 гадоў спаўняецца Уладзіміру Крукоўскаму — мастаку-плакатысту, стваральніку дзяржаўнага герба «Пагоня».
8 — Міжнародны жаночы дзень; Пурым у юдэяў.
8 — 50 гадоў спаўняецца паэту Славаміру Адамовічу.
11 — 125 гадоў таму нарадзіўся Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) — паэт, публіцыст, дзеяч БНР.
15 — Дзень Канстытуцыі.
25 — Дзень Волі.

### Красавік
1 — Дзень дурня.
6 — Песах у юдэяў.
8 — Вялікдзень у каталікоў.
15 — Вялікдзень у праваслаўных.
15 — 100 гадоў таму затануў брытанскі лайнер «Тытанік».
24 — Радаўніца.
26 — Дзень Чарнобыльскай трагедыі.

### Май
1 — Дзень працы.
1 (6) — 150 гадоў таму нарадзіўся беларускі этнограф Адам Багдановіч, бацька Максіма.
9 — Дзень Перамогі; Дзень Еўропы.
11 — Дзень Святога Кірылы Тураўскага.
24 — Дзень славянскага пісьменства.
27 — Тройца ў каталікоў.

### Чэрвень
3 — Тройца ў праваслаўных.
5 — Дзень Святой Еўфрасінні Полацкай.
21 — 50 гадоў таму нарадзіўся савецкі рок-спявак Віктар Цой.
23 — Купалле.
28 — Сабор беларускіх святых.
29 — Пятра і Паўла ў каталікоў, уніятаў.

### Ліпень
2 — Дзень Маці Божай Будслаўскай, апякункі Беларусі.
6 — Сусветны дзень пацалункаў.
6 — 125 гадоў таму нарадзіўся мастак Марк Шагал.
7 — Святы Іван у праваслаўных.
7 — 130 гадоў таму нарадзіўся народны паэт Беларусі Янка Купала.
8 — 100 гадоў таму нарадзіўся Гаўрыла Верасаў, беларускі шахматыст, міжнародны майстар.
12 — Пятра і Паўла ў праваслаўных.
20 — Пачатак месяца Рамадан у мусульманаў.
27 — Дзень Незалежнасці.




СЯМЁН ПЕЧАНКО

| Студзень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | ***7*** | 14 | 21 | 28 | |
| Н | ***1*** | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| Люты | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| Сакавік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | ***8*** | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | ***25*** | |

| Красавік | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | ***24*** | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | ***8*** | ***15*** | 22 | 29 | |

| Май | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | ***1*** | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | ***9*** | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| Чэрвень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

| Ліпень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | ***27*** | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| Жнівень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| Верасень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | ***8*** | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

| Кастрычнік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| Лістапад | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | ***7*** | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | ***2*** | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

| Снежань | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | ***25*** | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

### Жнівень
7 — 80 гадоў спаўняецца Адаму Мальдзісу, гісторыку і літаратуразнаўцу.
15 — Унебаўзяцце ў каталікоў, уніятаў.
19 — Яблычны Спас у праваслаўных.
28 — Спленне ў праваслаўных.

### Верасень
1 — Сусветны дзень ведаў.
2 — Дзень беларускага пісьменства.
8 — Дзень беларускай вайсковай славы.
16 — 75 гадоў спаўняецца Аляксандру Мядзведзю, трохразоваму алімпійскаму чэмпіёну па вольнай барацьбе.
17 — 100 гадоў таму нарадзіўся народны паэт Беларусі Максім Танк.
18 — Рош Ха-Шана (Новы год) у юдэяў.
27 — Узвіжанне Крыжа Гасподняга ў праваслаўных.

### Кастрычнік
1 — Пакроў ва ўніятаў, каталікоў.
7 — Сусветны дзень настаўніка.
14 — Пакроў у праваслаўных.
26 — Курбан-Байрам у мусульманаў.
29 — 75 гадоў ад чорнага дня беларускай культуры — расстрэлу ў засценках НКВД сотні прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты БССР.
31 — Ірландска-амерыканскае свята Хэлоўін.
31 — 75 гадоў таму нарадзіўся мастак Яўген Кулік.

### Лістапад
1 — Усе святыя ў каталікоў.
2 — Дзяды.
3 — 130 гадоў таму нарадзіўся народны паэт Беларусі Якуб Колас.
4 — 125 гадоў таму нарадзіўся Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), пісьменнік і першы кіраўнік Савецкай Беларусі.
15 — Рас-ас-Сана (Новы год) у мусульманаў.
16 — Дзень Маці Божай Вастрабрамскай.
20 — 50 гадоў таму нарадзіўся мастак Міхась Баразна.
28 — пачатак Піліпаўкі, посту перад Божым Нараджэннем у праваслаўных.

### Снежань
3 — Дзень бульбы.
10 — Дзень правоў чалавека.
25 — Божае нараджэнне ў каталікоў, уніятаў, пратэстантаў.

### Юбілеі года
**1150 гадоў** ад першай летапіснай згадкі пра Полацк.
**300 гадоў** з дня нараджэння вялікага гетмана літоўскага Януша Радзівіла.
**200 гадоў** ад Вялікай напалеонаўскай вайны.
**150 гадоў** ад выхаду першага нумара «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага.
**150 гадоў** таму была пабудавана першая чыгунка на тэрыторыі Беларусі на ўчастку Парэчча—Гродна.
**100 гадоў** таму была заснавана адна з найбуйнейшых амерыканскіх кінастудый Universal Pictures.
**50 гадоў** таму пачалася эксплуатацыя нафтаправода «Дружба».
**25 гадоў** таму савецкі ўрад вызваліў з турмаў 140 дысідэнтаў.

# Стваральнік Пракапові.ч'а: «На адпачынак на Багамах я не зарабіў!»

**Мінскі праграміст паўгода замяняў Нацбанк — вызначаў курс даляра цэлай краіны. Ягоны сайт не губляе папулярнасці і цяпер.**

Хто найбольш паўплываў на развіццё эканомікі за год? Годную кандыдатуру знайсці складана. Былы кіраўнік Нацбанка Пятро Пракаповіч пасля нявыкананых абяцанняў утрымаць рубель канчаткова выпаў з лукашэнкаўскай абоймы, здабыўшы статус ганаровага пенсіянера. Яго наступніца Надзея Ермакова запомнілася хіба сваімі шчырымі інтэрв'ю, пасля якіх курс рубля падаў удвая хутчэй, чым раней. А віцэ-прэм'ер Сяргей Румас, які сваімі смелымі заявамі ад вясны даваў надзею прыхільнікам рынку, так і не здолеў перахапіць ініцыятыву ў вызначэнні эканамічнага курсу краіны.

На іх фоне сапраўднай «Асобай года» выглядае мінскі студэнт, стваральнік жартаўлівага сайта Пракапові.ч, які імкліва ўзляцеў на вяршыні беларускага інтэрнэту. Ад красавіка да верасня краіна жыла па ягоным курсе, а не па лічбах Нацбанка. Таямнічы праграміст, які дагэтуль не раскрывае свайго імя, пагадзіўся адказаць на пытанні «НН», умоўна назваўшыся «Пятром Пятровічам».

### «Можна было б адкрываць такі сайт у Венесуэле»

**«Наша Ніва»: Як з'явілася ідэя віртуальнага абменніка і ці было адразу разуменне, што сайт стане настолькі папулярным?**

**Пятро Пятровіч:** Ідэя ўзнікла, калі я праглядаў напачатку вясны допісы сяброў у сацыяльных сетках. Там было шмат прапановаў набыць ці прадаць даляры па курсу, адрознаму ад абменнікаў, дзе валюты ўжо не было. Вось я і вырашыў стварыць для такіх аперацый асобную пляцоўку.

Да таго ж, хоць я і праграміст, па асноўнай спецыяльнасці я займаюся трохі іншымі рэчамі. Мне было цікава паглядзець, якія тэхнічныя магчымасці ёсць у стваральнікаў сайтаў і як можна хутка зрабіць нешта сваё. Я думаю, што праект будзе забаўкай на колькі дзен, і не мог сабе нават уявіць, што хоць нехта вырашыць абменьваць праз яго рэальныя грошы.

**«НН»: Колькі чалавек працуе ў камандзе?**

**ПП:** Калі ўсё гэта пачыналася, усім займаўся я адзін. Зараз, дзякуй Богу, знайшліся людзі, якія дапамагаюць. Без іх падтрымкі я б нічога не змог дасягнуць. У камандзе працуе да пяці чалавек, некаторыя добраахвотна, а рэдактары навінаў — за грошы. Час ад часу прыцягваем фрылансераў для дапамогі па тэхнічнай частцы.

**«НН»: Ці стаў праект камерцыйным і ці прынёс хоць трохі прыбытку стваральнікам?**

**ПП:** Праект, натуральна, некамерцыйны. Нашая пазіцыя такая, што людзі мусяць мець доступ да такіх сэрвісаў бясплатна. Але вядома ж, грошы не нашкодзілі б. Да нас раней заходзілі да 100 тысяч унікальных наведнікаў за суткі, зараз каля трыццаці тысяч. Гэта вялікая аўдыторыя, і каб плённа працаваць з ёй, неабходныя інвестыцыі. Даходы з рэкламы невялікія, усё ідзе на аплату рэдактарам і за серверы, казаць пра нейкі прыбытак не даводзіцца.

**Максімальная аўдыторыя сайта была падчас увядзення дадатковай сесіі на валютнай біржы — 200 тысяч наведванняў »**

Беларускія бізнэсоўцы баяцца размяшчацца ў нас нават бясплатна, хоць нашая пляцоўка іх і прываблівае. А вось «Белсат», напрыклад, пэўны час рэкламаваўся, і яны потым адзначылі, што сярод усіх беларускіх сайтаў ад нас да іх прыйшло найбольш людзей.

**«НН»: І ўсё ж, вашая нелегальнасць — гэта плюс ці мінус для раскруткі сайта?**

**ПП:** Тут палка аб двух канцах. З аднаго боку, мы засяродзілі на сабе ўсю аўдыторыю такіх фінансавых сэрвісаў. Паколькі наш сайт грунтуецца на чыстай ідэі, тэхнічная рэалізацыя была вельмі простая. Калі б не пераслед Генпракуратуры, канкурэнты, той жа Tut.by, адбілі б у нас большасць наведвальнікаў, бо ў іх значна лепшыя магчымасці для развіцця. З іншага боку, нягледзячы на вялікую аўдыторыю, мы не ў стане яе манетызаваць. І не толькі для адпачынку на Багамах асабіста для мяне, але і для магчымасці зняць офіс, плаціць людзям нармальны заробак і, урэшце, мець сайт, лепшы за цяперашні.

**«НН»: Якія перспектывы ў сайта, калі неабходнасць у віртуальным абмене даляраў адпала? І што, на вашую думку, усё яшчэ шукаюць на Пракапові.ч'ы тыя 15—20 тысяч чалавек, што заходзяць на яго штодзень?**

**ПП:** Да нас усё яшчэ заходзяць людзі, якія чытаюць навіны, шмат каму падабаецца, як мы фармуем стужку і якія каментары пад навінамі пакідаюцца. Што да абмену грошай, то ў іншых краінах таксама існуюць падобныя праблемы. Напрыклад, у Венесуэле, у некаторых азіяцкіх краінах СНД. Можна было б туды пашырацца. Але каб пашырацца, трэба мець час і інвестыцыі, а ў мяне зараз няма ні таго, ні іншага. Бачанне, канцэпцыя — гэта ёсць, але асабліва не хочацца выходзіць на міжпланетны ўзровень праз магчымыя праблемы з заканадаўствам.

### Вінавацілі ў супрацы з КДБ і амерыканцамі адначасова

**«НН»: Мала хто ў свеце верыць, што некалькі месяцаў краіна фактычна жыла па курсе, які ананімны чалавек выстаўляў у інтэрнэце. Шмат у каго была спакуса ўплываць на яго ў сваіх інтарэсах. Ці былі прапановы ад бізнесменаў ці чыноўнікаў змяніць курс за пэўную ўзнагароду?**

**ПП:** Былі хіба што спробы мяняць курс пры дапамозе шматлікіх фіктыўных абвестак. Ну і, натуральна, абвінавачанні. Ад супрацы з КДБ да працы на Дзярждэп, Масад і Нацыянальны банк Афганістана адначасова. І калі з першым мы даволі паспяхова змагаліся, ужываючы розныя метады аналізу інфармацыі, то на другое проста не зважалі ці, наадварот, смяяліся ўголас. Увогуле, ці не асноўнай мэтай пры стварэнні сайта быў лёгкі здзек з уладаў — глядзіце, маўляў, першы ў свеце электронны пункт наяўнага абмену. А першы ў свеце не таму, што мы самыя прасунутыя, а таму, што больш нідзе такі цуд непатрэбны.

Я таксама лічу, што гэта абсалютна ненармальна, калі ананім выстаўляе штодня курс для ўсёй краіны — а гэта ж насамрэч было так. І аб'ёмы ў нас смешныя былі: праз нас праходзіў недзе 1% звычайнага валютнага абароту. Таму я спрабаваў усімі магчымымі спосабамі дабіцца таго, каб сітуацыя выправілася, паказаць абсурднасць таго, што адбываецца, вярнуць валютнае рэгуляванне ў нармальнае рэчышча. Хто ведае, можа, калі б не гэты сайт, улады б і далей зацягвалі з вяртаннем валюты ў абменнікі.

**«НН»: Яшчэ з вясны вашай дзейнасцю зацікавілася пракуратура. Ці ўдалося хоць нейкім дзяржаўным структурам вылічыць вас?**

**ПП:** Аніякіх кантактаў з супрацоўнікамі Генпракуратуры ці іншых дзяржустаноў я не меў. Ці вылічылі яны мяне, не ведаю. Я не хакер, не шпіён, не надта стараюся заблытаць сляды. Мо і вылічылі, ды вырашылі не чапаць. Зрэшты, тых, хто ведае, што я гэтым займаюся, мала — сям'я і некаторыя сябры.

### Пятро Пятровіч зажыў сваім жыццём

**«НН»: Што павінна адбыцца, каб грамадскасць даведалася сапраўднае імя «Пятра Пятровіча»?**

**ПП:** Адкрываць сваё імя я не хачу. Перадусім, я лічу, што канцэпцыя прыцягнення персанажа Пятра Пятровіча, якая праходзіць праз увесь сайт, — нашае найвялікшае і найлепшае адкрыццё. Пятро Пятровіч — класны дзядзька, якому давяраюць і які жыве ўжо сваім асобным жыццём. А хто гэта ў рэальнасці — ці то паспяховы банкір, ці то пенсіянер-чыгуначнік, ці то ўчарашні выпускнік каледжа міліцыі, — няважна.

**«НН»: У Расіі героем інтэрнэт-супольнасці стаў блогер Навальны. Цяпер многія прапануюць яму кандыдатам у прэзідэнты. Вы хацелі б у будучыні заняцца грамадскай дзейнасцю, калі ўлічыць, што статус «стваральнік Пракапові.ч'а» адразу ж дасць вялікую пазнавальнасць?**

**ПП:** Ісці ў публічную палітыку ці грамадскую дзейнасць я не хачу. Апроч імя — дый тое спрэчна, ці дапаможа яно, — патрэбна нешта іншае, чаго ў мяне няма. Каб была ідэя, якая б дапамагла людзей разварушыць, і план па яе дасягненні, я б ёй падзяліўся. Але, здаецца, што адной ідэі мала, трэба павольна рухацца, развіваць грамадзянскую супольнасць і прывучаць людзей думаць. А палітыкі з'явяцца, проста на ўсё свой час. Я думаю, што і ад імя Пятра Пятровіча можна рабіць грамадства трошкі лепшым. У Расіі крыху прасцей з гэтым, там пакуль што менш заціснутыя гайкі, але і там, бадай, адзін Навальны і ёсць з адметных асобаў, якія нечага дасягнулі, якіх ведаюць, якімі ганарацца і якія здольныя весці за сабой людзей.

*Гутарыў Ягор Марціновіч*




**Prokopovi.ch**

«Першы ў свеце электронны пункт віртуальнага абмену валюты». Створаны ў пачатку красавіка, каб сабраць аб'явы аб куплі і продажы валюты. Курсам, якія з'яўляліся на сайце, карысталася ўся краіна. Пракуратура абмежавала доступ да яго, аднак не пазбавіла папулярнасці. З выхадам Беларусі на адзіны курс даляра перастаў адыгрываць сваю ролю. Цяпер — навінны партал.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Рэальны Пракаповіч сышоў. Але віртуальны — застаўся.**

# Дакументы НКВД абвяргаюць Лукашэнку

Ахвяры **«беларускага катынскага спісу»** — у Трасцянцы?

Падчас прэс-канферэнцыі СМІ 23 снежня Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на пытанне пра беларускі катынскі спіс, заявіў, што «ніводнага паляка на тэрыторыі Беларусі знішчана не было». «У нас аказаліся толькі перасыльныя пункты», — казаў кіраўнік дзяржавы.

Гэтыя словы абвяргаюць звесткі пра «беларускі катынскі спіс» з 3872 асобаў, які Польшча просіць ёй перадаць. Паводле запіскі старшыні КДБ СССР Шалепіна Хрушчову, датаванай 1956 г., у турмах Заходніх Украіны і Беларусі ў выкананне «аперацыі, санкцыянаванай рашэннем Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1940», было расстраляна 7305 польскіх ваеннапалонных і цывільных. Ва ўкраінскім «катынскім спісе», нядаўна перададзеным Польшчы, — 3433 прозвішчы. Значыць, рэшта — расстраляныя ў Беларусі.

У лістападзе 2010 г., падчас інтэрв'ю польскім журналістам, Лукашэнка паабяцаў асабіста заняцца справай «катынскага спісу» і зрабіў агаворку, што «многія дакументы былі вывезеныя ў Маскву». Дзіўна цяпер чуць, што дакументы пра расстрэл не знайшліся, кажа гісторык Ігар Кузняцоў.

Ускосныя сведчанні пра знішчэнне палякаў ёсць нават у адкрытым доступе. І згаданае рашэнне Палітбюро, і дырэктыва Берыі Кагановічу — прадаставіць 155 вагонаў для этапавання ў Мінск «польскіх зняволеных», датаваная 21 сакавіка 1940-га. І загад Берыі «Пра разгрузку турмаў НКВД УССР і БССР», дзе пазначана, што з Баранавіцкай, Вілейскай, Брэсцкай і Пінскай турмаў у Мінск мусілі этапаваць 3000 зняволеных. Куды іх «разгрузілі» з мінскай турмы?

Курапаты, Лошыца, Трактарны завод, Благоўшчына, Аэрапорт-1, Камароўка, Парк Чалюскінцаў, Масюкоўшчына — і гэта яшчэ не ўсе месцы пахавання ахвяр НКВД, кажа І.Кузняцоў. У кожным з іх могуць ляжаць ахвяры «польскай» аперацыі красавіка—мая 1940 года. Але, на яго думку, найверагодней — у Трасцянцы. «Вязняў грузілі ў вагоны на станцыі Мінск-Таварны і везлі ў Шабаны. Так можна незаўважна перамясціць вялікую колькасць людзей у польскай форме». Дарэчы, на тым самым месцы пазней будуць знішчаць людзей нацысты. Цяпер на месцы трасцянецкіх пахаванняў — гіганцкі сметнік...

Ці можа быць, каб дакументы пра расстрэлы не захаваліся?



Паводле афіцыйных звестак, 22% ад агульнай колькасці рэпрэсаваных у Беларусі — палякі »

Моцны мастацкі вобраз расстраляных у Катыні стварыў рэжысёр Анджэй Вайда.

Усе спісы, кажа Кузняцоў, дубляваліся мінімум у 2-х асобніках. Калі Служба бяспекі Украіны перадала Польшчы «ўкраінскі катынскі спіс», чаму беларускі прапаў? Было ж адзінае НКВД з ідэнтычнай дакументацыяй.

А нават без уліку расстраляных у 1940-м, згодна з пастановай Палітбюро, казаць пра тое, што ў Беларусі не знішчалі палякаў, — няпраўда, лічыць Кузняцоў. Былі расстрэлы вязняў турмаў у Заходняй Беларусі перад прыходам гітлераўцаў. Так, у Глыбокім энкавэдысты забілі больш за 700 чалавек. Частка іх, казалі відавочцы, была ў польскай вайсковай форме.

«Нават паводле афіцыйных звестак, 22% ад агульнай колькасці рэпрэсаваных у Беларусі — палякі», — падсумаваў І.Кузняцоў.

**Сяргей Мікулевіч**

Вынікі года

# Альбомы года

Музычны год выдаўся **багатым на цікавыя рэлізы**.




### Самы ўплывовы

**Ляпіс Трубяцкой** — «Вясёлыя карцінкі»

Больш уплывовага альбома ў Беларусі не было з часоў «Трох чарапах» N.R.M. У «Вясёлых карцінках» — і найлепшая лірычная песня Міхаля «Я верю», і баявік «Грай», які даў палітычным пратэстам лозунг «Гані быкоў!».

На новы альбом «Ляпісаў» адгукнуўся нават такі далёкі ад року чалавек, як Зянон Пазняк. Ён прарочым песні «Грай» уключэнне ў скарбонку сучаснай беларускай музыкі.

«Міхалок — татуяваны анархіст, увесь ў наколках, што ўдаваў з сябе блазна, — чалавек з нялёгкім мінулым, які ўзняўся, адбіўся ад самага дна, які зьбярог свой розум, талент, сумленне і гонар, ён якраз аказаўся больш надзейнай і вартай павагі асобай, чым тыя, што былі на Парнасе і — спусціліся ў стойла «быкоў».




### Самы ўзнагароджаны

**Тройца** — «Зімачка»

Твор геніяльнага этна-трыа сабраў амаль усе магчымыя рэгаліі — ад першай прэміі сайта музычнай аналітыкі Experty.by да афіцыйнай Першай беларускай музычнай прэміі, дзе «Тройцу» прызналі гуртам года. «Зімачка» поўніцца такім аўтэнтычным шаманствам, гучыць такой колькасцю інструментаў, такім гукам, ад якога мурашкі па скуры.




### Самы актуальны

**Akute** — «Дзевачкі і космас»

Малады гурт Akute можа стаць найпапулярнейшым у краіне. Станіслаў Мытнік і кампанія спяваюць пабеларуску ідэальны заходні поп-рок. «Гэта такая кранальная папса для дзяўчынак, аднак зроблена яна на вельмі высокім узроўні, як у The Killers ці Block Party, — кажа музычны крытык Таццяна Заміроўская. — Я бачыла, як дзяўчынкі, якія нават не разумеюць мовы, развучваюць і спяваюць па-беларуску гэтыя песні».

Таму што ўсе зоркі — халодныя лялькі
ніколі не плачуць ніколі не плачуць
і я абяцаю ты болей ніколі
мяне не ўбачыш мяне не ўбачыш...




### Самы класічны

**Pomidor/OFF** — «Патас/Попс/Прапаганда»

Аляксандр Памідораў рыхтаваў новы альбом дзесяць гадоў. «Песні выкрышталізоўваліся на канцэртах, матэрыял падабраўся надзвычай моцны», — кажа стваральнік інтэрнэт-партала «Тузін гітоў» Сяргей Будкін. Памідораў разнапланавы музыка. Ён удала рэалізаваўся ў рэпе, стварыўшы класічны «Цуд на Каляды». Але тут Аляксандр працуе ў жанры класічнага беларускага року 1990-х:

Чарговы дзень
І як шэры дым
Жыццё адно
Ты ў ім адзін
Цябе ірве
На ўсе бакі
Дарма сціскаеш кулакі...




### Самы экзатычны

**Срэбнае веселле** — «Сардэчная мускулатура»

На пурытанскай беларускай музычнай сцэне «Срэбнае веселле» стварае такое псіхадэлічнавясёлае і актуальнае кабарэ, якое магло б прыдумаць хіба Бертольд Брэхт, Эдзіт Піяф, Лайза Мінэлі і Курт Вайль, калі б сабраліся разам. «Сардэчная мускулатура» — першы студыйны альбом гурту. На радыё яго, вядома ж, не возьмуць — нефармат. Аднак замежных тураў у незвычайнага «Срэбнага веселля» — болей чым у каго. У альбоме вакалістка Бенька і яе каманда даказалі немагчымае: у кабарэ можна трапіць, проста ўключыўшы плэер.

**Юрась Ускоў**

**Ляпіс Трубяцкой — Грай**

Недзе ля ракі, дзе не мае броду
Шэрыя быкі танчаць карагоды
Ланцугі ўначы адліваюць златам
Воран там крычыць з воўкам,
родным братам.
Палыхае там вогнішча да неба
П'юць яны віно, заядаюць хлебам
Песні ім пяюць старыя цыганкі
Б'юць капытам, б'юць, а ў небе маланкі!

Гэтыя быкі маюць сваю праўду:
Ім не трэба сонца, цемры ім багата
Ім вясны не трэба, ім зімы б паболей
Каб ты, хлопец, спаў на пячы ў няволі!
Грай! Шукай! У снах юнацтва свае мары!
Грай! Гукай! Вясны зялёнай цёплай чары!
Грай! Спявай! Дружна песні райскай волі!
Грай! Грай! Гані быкоў — вярнецца доля!

Напіліся быкі, скачуць па краіне
Топчуць рушнікі капытамі ў гліне
Скачуць па дварах, адчыняюць хаты,
Хто не пахаваўся — будзе вінаватым!

**Чэмпіёны па запампоўках**

З удасканаленнем інтэрнэту падаюць продажы дыскаў. Навошта купляць, калі можна выцягнуць з сеціва — разважаюць многія. Хто ж найпапулярнейшы па запампоўках? Падаём статыстыку паводле аднаго з найбуйнейшых торэнт-трэкераў rutracker.org.

1. **«Ляпіс Трубяцкой»** — «Вясёлыя карцінкі» спампаваны 58058 разоў.
2. **«Срэбнае веселле»** — «Сардэчная мускулатура» — 3370.
3. **«Пятля Прыстрасці»** — «Гіпнапедыя» — 1307.
4. **«Тройца»** — «Зімачка» — 1023.
5. **Akute** — «Дзевачкі і космас» — 574.
6. **Pomidor/OFF** — «Патас/Попс/Прапаганда» — пакуль на торэнце не з'яўлялася.

Сёлета найлепшай кнігай, на думку экспертаў «НН», стаў **збор твораў Адама Бабарэкі**.

# Найлепшыя кнігі 2011




Постаць Бабарэкі (1899—1938) — пісьменніка, аднаго з геніяльных літаратуразнаўцаў і крытыкаў, знакавая. Па меркаванні аднаго са складальнікаў двухтомніка Віктара Жыбуля, Бабарэка мог стаць «беларускім Бялінскім» або «беларускім Кафкам». Але Бабарэку рэпрэсавалі ў 1930-м. Рукапісы засталіся ў сям'і.

Гэта трэці выпадак за апошнія пяць гадоў, калі найлепшай кнігай года робіцца рэтраспектыўнае выданне. Сітуацыя, калі новыя кнігі не пераўзыходзяць даробку папярэдніх пакаленняў, сведчыць, што культурны крызіс яшчэ не пераадолены. Але было б дзіўна бачыць іншае ў сёняшняй сітуацыі дыктатуры.

Сярод названых экспертамі шасці дзясяткаў выданняў пераважае мастацкая літаратура. Трапляе ў першую дзясятку зборнік філасофскай лірыкі аднаго з апошніх класікаў — Рыгора Барадуліна «Аніма», выдадзены Чырвоным касцёлам. У кнізе сабраныя кананічныя малітвы ў паэтычнай інтэрпрэтацыі аўтара, біблейскія балады, псалмы, вершы-малітвы.

Ёсць у топе і дэбюты — кніга Антона Францішка Брыля. Андрэй Хадановіч характарызуе яе як «зборнік віртуознай лірыкі». У наш час папсовасці Антон Францішак — не папсовы, адзначае старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра. Чытанне яго твораў патрабуе сур'ёзнага чытача-саўдзельніка. Дарэчы, малады Брыль — унук Янкі Брыля.

Пакаленне 80-х у топе рэйтынгу прэзентуе Андрэй Федарэнка з кнігай «Мяжа». У ёй — раман-эсэ і апавяданні. Крытыкі адзначаюць складанасць аўтабіяграфічнага твора, глыбіню развагаў аўтара. Такім чынам, хоць Хадановіч і назваў наш час «папсовым», у рэйтынгу яўна не стае масавай літаратуры па-беларуску.

Літаратуразнаўчая праца «Купала і Колас, вы нас гадавалі...» — адна з апошніх кніг архівіста Віталя Скалабана, які адышоў у 2010-м. Увагу прыцягвае форма гістарычнага расследавання. «Толькі Віталь Скалабан з ягоным незвычайным талентам даследчыка, адданасцю і руплівасцю мог знайсці ўнікальныя дакументы, якія вяртаюць горкую праўду беларускай літаратуры, страсаючы пазалоту і бронзу», — адзначыла эксперт Людміла Рублеўская.

У першай дзясятцы аж тры пазіцыі займаюць пераклады замежнай класікі — Мілаш, По, Янсан. Колькасць перакладаў, якія ўдаецца выдаваць, заўважна расце, дзякуючы колу маладых перакладчыкаў, згрупаваных вакол інтэрнэт-часопіса «Прайдзісвет».

Эксперты згадалі больш за два дзясяткі выдавецтваў, але сярод іх толькі адно знаходзіцца па-за сталіцай і яшчэ сем — у іншых краінах. Рэгіянальныя выдавецкія асяродкі застаюцца слабымі, а кніжны рынак краіны — падзеленым.

Лідарамі па колькасці згаданых кніг застаюцца незалежныя выдаўцы — «Логвінаў», «Кнігазбор». Сярод дзяржаўных — «Літаратура і мастацтва».

Выніковы рэйтынг падаецца паводле падліку балаў па дзесяцібальнай шкале. За кожнае першае месца ў спісе налічваецца 10 балаў, за другое — 9 і г. д.

**Сяргей Макарэвіч**

**Дзясятка найлепшых кніг 2011 года выглядае так:**

1. Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 т. Укладальнікі Алеся Бабарэка, Віктар Жыбуль, Ганна Запартыка. — Вільня, Інстытут беларусістыкі; Беласток. Беларускае гістарычнае таварыства. — 41 бал;

2. Чэслаў Мілаш. Паэзія, эсэістыка, аўтабіяграфічная проза ў 4 тамах. — Мінск: Логвінаў. — 40 балаў;

3. Энцыклапедыя «Максім Багдановіч». Уклалі Іван Саламевіч, Мікалай Трус. — Мінск: БелЭн імя П.Броўкі. — 31 бал;

4. Эдгар По. Маска Чырвонае Смерці. Выбраныя навелы, вершы, эсэ / Пераклад з ангельскай. — Мінск: Кнігазбор. — 30 балаў;

5. Тувэ Янсан. Капялюш чарадзея. Пераклад з шведскай Насты Лабады і Алесі Башарымавай. — Мінск: Зміцер Колас. — 20 балаў;

6-7. Рыгор Барадулін. Anima. — Мінск: Рымска-Каталіцкая парафія Св.Сымона і Св.Алены.

Андрэй Федарэнка. Мяжа. — Мінск: Літаратура і мастацтва. — па 19 балаў;

8-10. Вінцук Адважны. Выбраныя творы. — Мінск: Кнігазбор.

Купала і Колас, вы нас гадавалі... Кніга другая. 1939—2009. Укладальнікі Вячаслаў Селяменеў, Віталь Скалабан. — Мінск: Літаратура і мастацтва.

Антон Францішак Брыль. Не ўпаў жолуд. — Мінск: Логвінаў. — па 15 балаў;

**Найлепшыя кнігі папярэдніх гадоў:**

2010 — Уладзімір Караткевіч. Ладдзя Роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне. — Мінск: Медысонт;

2009 — Алег Латышонак. Нацыянальнасць — Беларус. — Вільня: Інстытут Беларусістыкі/Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства;

2008 — Галасы з-за небакраю: анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах ХХ ст. Уклаў Міхась Скобла. — Мінск: Лімарыус;

2007 — Павел Севярынец. Лісты з лесу. — Вільня: Інстытут беларусістыкі/Кнігарня «Наша Ніва».

**Арсень Ліс, літаратуразнавец:**
1. Рыгор Барадулін. Anima. — Мінск: Рымска-Каталіцкая парафія Св.Сымона і Св.Алены.
2. Вінцук Адважны. Выбраныя творы. — Мінск: Кнігазбор.
3. Ніл Гілевіч. Збор твораў. Т4. Паэзія, сатыра, гумар. — Мінск.
4. Леанід Лыч. Варыяцыі на нацыянальную тэму.
5. Ала Сямёнава. У святой краіне выгнання. — Мінск: Кнігазбор
6. Міфалогія беларусаў. Энцыклапедычны слоўнік. — Мінск: Беларусь.
7. Энцыклапедыя «Максім Багдановіч». — Мінск: БелЭн імя П.Броўкі.
8. Вольга Храптовіч-Буцянёва. Злом (1939—1942): успаміны. — Мінск: Кнігазбор.
9. Анатоль Сабалеўскі. Майстры, падзеі, акалічнасці: нарысы, артыкулы, эсэ. — Мінск: Кнігазбор.
10. Хрышчэнне нацыі. Масавыя акцыі 1988—2009. — Вільня: Інстытут беларусістыкі; Мінск: Палітычная сфера.

**Міхась Казлоўскі, краязнавец, рэдактар альманаха «Куфэрак Віленшчыны»:**
1. Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 т. — Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства.
2. Юрка Віцьбіч. Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза. — Мінск: Кнігазбор.
3. Леанід Лыч. Нацыянальна-культурнае жыццё на Беларусі ў часы вайны (1941—1944 гг.). — Вільня: Наша будучыня.
4. Максім Багдановіч: вядомы і невядомы: зборнік літаратуразнаўчых і архіўных матэрыялаў. — Мінск: ЛіМ.
5. Эдгар По. Маска Чырвонае Смерці. Выбраныя навелы, вершы, эсэ / Пераклад з англійскай. — Мінск: Кнігазбор.
6. Уладзімір Кажамяка. Не пакідайце нас, белыя лебедзі. — Мінск: Логвінаў.
7. Васіль Жушма. Гарэза: аповесць. — Мінск: ЛіМ.
8. Аляксандр Стагановіч. Успаміны пасла. — Мінск: Лімарыус.
9. Францішка Уршуля Радзівіл. Нясвіжскі альбом: зборнік любоўнай лірыкі. — Мінск: Кнігазбор.
10. Вінцук Адважны. Выбраныя творы.

**Алесь Пашкевіч, гісторык:**
1. Сцяпан Некрашэвіч, Мікола Байкоў. Расійска-беларускі слоўнік.
2. Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 т.
3. Энцыклапедыя «Максім Багдановіч».
4. Чэслаў Мілаш. Паэзія, эсэістыка, аўтабіяграфічная проза ў 4 тамах. — Мінск: Логвінаў.
5. Лісейчыкаў, Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839 гг.
6. Уладзімір Роўда. Палітычная сістэма Рэспублікі Беларусь: вучэбны дапаможнік. — Вільня: ЕГУ.
7. Славянамоўная паэзія ВКЛ XVI–XVIII ст. — Мінск: Беларуская навука.
8. Яўстафій Янушкевіч. Успаміны (1805—1831). — Мінск: Лімарыус.
9. Міхась Казлоўскі. Пра кніжнікаў і кнігі : нататкі бібліяфіла, эпісталярная спадчына. — Мінск: Кнігазбор.
10. Зміцер Сасноўскі. Музычная культура рыцарскага саслоўя ВКЛ і Каралеўства Польскага. — Мінск: Кнігазбор.

**Аляксандр Фядута, літаратуразнавец:**
1. Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 т.
2. Энцыклапедыя «Максім Багдановіч».
3. Аляксандр Стагановіч. Успаміны пасла.
4. Антон Францішак Брыль. Не ўпаў жолуд. — Мінск: Логвінаў.
5. Купала і Колас, вы нас гадавалі... Кніга другая. 1939—2009. Укладальнікі Вячаслаў Селяменеў, Віталь Скалабан. — Мінск: ЛіМ.
6. Уладзімір Някляеў. «Лісты да Волі». — Вільня.
7. Вінцук Адважны. Выбраныя творы.
8. Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў. — Мінск: БелЭн імя П.Броўкі.
9. Андрэй Федарэнка. Мяжа. — Мінск: ЛіМ.
10. Яўстафій Янушкевіч. Успаміны (1805—1831).

**Андрэй Хадановіч, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра:**
1. Чэслаў Мілаш. Паэзія, эсэістыка, аўтабіяграфічная проза ў 4 тамах.
2. Эдгар По. Маска Чырвонае Смерці. Выбранае3. Антон Францішак Брыль. Не ўпаў жолуд. Марыя Мартысевіч. Амбасада: вершы свае і чужыя. — Мінск: Кнігазбор.
4. Альгерд Бахарэвіч. Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча. — Радыё «Свабода». Павал Касцюкевіч. Зборная РБ па негалоўных відах спорту. — Мінск: Логвінаў.
5. Тувэ Янсан. Капялюш чарадзея. — Мінск: Зміцер Колас.
Герман Гесэ. Стэпавы воўк. Раман. — Мінск: Зміцер Колас.
6. Ігар Кулікоў. Паварот на мора. — Мінск.
7. Макс Шчур. Ліст, знойдзены на папялішчы. — Познань: Белы Крумкач.
8. Артур Клінаў. Шалом: ваенны раман. — Мінск: Логвінаў/Кнігарня «НН».
9. Лявон Вольскі. Міларусь. — Мінск: Медысонт.
Віктар Шалкевіч. Requiem па непатрэбных рэчах. — Гродна.
10. Сяржук Вітушка. Дзінь-дзілінь. Казкі. — Мінск: Зміцер Колас.
Серж Мінскевіч. Сад замкнёных гор. — Мінск: Галіяфы.

**Алег Дзярновіч, гісторык:**
1. Славянамоўная паэзія ВКЛ XVI–XVIII стст. — Мінск: Беларуская навука.
2. Людміла Дучыц, Ірына Клімковіч. Сакральная геаграфія Беларусі.
3. Уладзіслаў Ахроменка. Тэорыя змовы: Кінараман-фарс. — Мінск: Логвінаў.
4. Чэслаў Мілаш. Паэзія, эсэістыка, аўтабіяграфічная проза ў 4 тамах.
5. Кушнярэвіч А.М. Мураваная дабастыённая фартыфікацыя ВКЛ. — Мінск: Беларуская навука.
6. Гісторыя Беларусі. Т. 6: Беларусь у 1946—2009 гг. — Минск: Современная школа; Экоперспектива.
7. Уладзімір Роўда. Палітычная сістэма Рэспублікі Беларусь: вучэбны дапаможнік. — Вільня: ЕГУ.
8. Хрышчэнне нацыі. Масавыя акцыі 1988-2009.
9. Прэс-фота Беларусі-2010. — Каўнас: Arx Baltica.
10. Віталь Рыжкоў. Дзверы, замкнёныя на ключы. — Мінск: Логвінаў.

**Леанід Галубовіч, літаратурны крытык:**
1. Энцыклапедыя «Максім Багдановіч».
2. Андрэй Федарэнка. Мяжа.
3. Эдгар По. Маска Чырвонае Смерці.
4. Алесь Разанаў. З Вяліміра Хлебнікава.
5. Чэслаў Мілаш. Паэзія, эсэістыка, аўтабіяграфічная проза ў 4 тамах.
6. Максім Багдановіч: вядомы і невядомы: зборнік літаратуразнаўчых і архіўных матэрыялаў.
7. Ірына Шаўлякова. Сапраўдныя хронікі Поўні: артыкулы і рэцэнзіі. — Мінск: ЛіМ.
8. Франц Сіўко. Выспы. — Мінск: Логвінаў.
9. Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 т.
10. Віталь Рыжкоў. Дзверы, замкнёныя на ключы.

**Людміла Рублеўская, літаглядальнік газеты «СБ. Беларусь Сегодня»:**
1. Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 т.
2. Купала і Колас, вы нас гадавалі...
3. Андрэй Федарэнка. Мяжа.
4. Віктар Карамазаў. Мастак і парабкі. — Мінск: Медысонт.
5. Ала Сямёнава. У святой краіне выгнання.
6. Эдгар По. Маска Чырвонае Смерці.
7. Франц Сіўко. Выспы.
8. Сяргей Календа. Іржавы пакой з белымі шпалерамі. — Мінск: Медысонт.
9. Артур Клінаў. Шалом.
10. Вінцук Адважны. Выбраныя творы.

**Кнігарня «Эўрыка», Мінск:**
1. Міхась Пазнякоў. Гульнянслоў: гульня з літарамі і словамі. — Мінск: ЛіМ.
2. Тувэ Янсан. Камета над далінай мумітроляў.
3. Тувэ Янсан. Капялюш чарадзея.
4. Леанід Несцярчук. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі: Манарх, асветнік, мецэнат. — Брэст: Брэсцкая друкарня.
5. Аксана Катовіч, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Мінск: Адукацыя і выхаванне.
6. Беларускі арфаграфічны слоўнік. Укладальнікі Л.П.Кунцэвіч, І.У.Кандраценя. — Мінск: Беларуская навука.

**Кнігарня «Логвінаў», Мінск:**
1. Чэслаў Мілаш. Паэзія, эсэістыка, аўтабіяграфічная проза ў 4 тамах.
2. Лявон Вольскі. Міларусь.
3. Віталь Рыжкоў. Дзверы, замкнёныя на ключы.
4. Артур Клінаў. Шалом.
5. Тувэ Янсан. Капялюш чарадзея.
6. Прэс-фота Беларусі-2010.
7. Сяржук Вітушка. Дзінь-дзілінь. Казкі.
8. Алесь Разанаў. З Вяліміра Хлебнікава.
9. Эдгар По. Маска Чырвонае Смерці. Выбраныя навелы, вершы, эсэ / Пераклад з ангельскай.
10. Герман Гесэ. Стэпавы воўк. Раман. Пераклад з нямецкай Васіля Сёмухі. — Мінск: Зміцер Колас.

**«Кніжны салон», Мінск:**
1. Кшыштаф Мігань: бібліяграфічны паказальнік (1960—2010): да 70-годдзя з дня нараджэння і 50-годдзя навуковай дзейнасці. — Мінск: БДУКМ.
2. Рыгор Барадулін. Anima.
3. Святлана Іванова. Минск души моей. — Мінск: Чатыры чвэрці.
4. Юрый Татарынаў. Древняя Литва: истоки белорусской народности и государственности. — Мінск: Смэлток.
5. Сяргей Шабельцаў. Иммигранты-чакареро из II Речи Посполитой в Аргентине и Парагвае. Воспоминания белорусов и украинцев. — Мінск: РІВШ.
6. Аксана Катовіч, Янка Крук. Белорусская свадьба: тайные ключи семейного счастья. — Мінск: Адукацыя і выхаванне.
7. Фалькларыстычныя даследаванні: Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі: зборнік навуковых артыкулаў. Выпуск 8. — Мінск: Права і эканоміка.
8. Алесь Карлюкевіч. І марам волю дам: літаратурная карта Пухавіччыны. — Мінск: Бел-Эн імя П.Броўкі.
9. Багдановіч Максім. Вянок. Кніга выбраных вершаў. Факсімільнае выданне. — Мінск: Мастацкая літаратура.
10. Валянціна Стэльмах. Беларусь ў асобах. — Мінск: Пачатковая школа.

# Калядны мегараспродаж «Кнігарні «Наша Ніва»

Зніжкі як на асобныя кнігі, так і на **поўны камплект.**

Будзем рады, калі Вы зробіце сабе падарунак — палічку добрых кніг. У продажы ёсць як гістарычная, так і мастацкая літаратура, мемуары і эсэістыка. Серыя кніг «Кнігарня «Наша Ніва» была заснавана ў 2006 годзе ў гонар стагоддзя газеты. Частку кніг ужо прадалі. У наяўнасці застаецца 31 выданне.

Увага! Калядны распродаж! Кошт камплекта з 31 кнігі — 290 тыс. рублёў. Кошт асобных кніг пазначаны побач з іх назвамі.

**Анджэй Суліма Камінскі. «Рэспубліка супраць аўтакратыі: Рэч Паспалітая і Расія, 1686–1697».** 350 старонак, гістарычная праца, 14.000 руб.

Кніга прафесара Джорджтаўнскага ўніверсітэта Анджэя Сулімы Камінскага прысвечана перыяду, які быў у фокусе ягоных навуковых зацікаўленняў. Гэта канец XVII стагоддзя. Але гэта яшчэ не заняпад Рэчы Паспалітай, толькі пярэдадзень яго. Чаму эканамічна слабая Рэч Паспалітая пратрымаецца яшчэ цэлае стагоддзе? Чаму яе грамадзяне так ганарыліся сваёй Рэспублікай? Чаму расійская дыпламатыя не магла раскусіць механізмаў дзеяння Рэчы Паспалітай?

**«Кароткі нарыс беларускага пытання». Сакрэтная кніга польскіх спецслужб аб Беларусі.** 394 старонкі павялічанага фармату, 20.000 руб.

Манументальная аналітычная запіска польскай разведкі пра гісторыю і сучасны (сярэдзіна 1920-х) стан беларускага нацыянальнага руху. Была напісана польскім агентам.

**Арсень Ліс. «Gloria victis!»** Збор твораў, 40.000 руб.

Аб'ёмны (750 старонак) збор твораў выдатнага гісторыка культуры. У кнізе можна прачытаць пра Аляксандра Уласава, Бараніслава Тарашкевіча, Аркадзя Смоліча, Тамаша Грыба, Максіма Танка, Язэпа Драздовіча.

**Васіль Быкаў. «Пахаджане».** Прыпавесці, 13.000 руб.

Перадапошняя прыжыццёвая кніга народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Той нумар «Нашай Нівы», дзе друкаваліся прыпавесці Быкава, адразу станавіўся рарытэтам у шапіках...

**Васіль Быкаў. «Сцяна».** Апавяданні, 13.000 руб.

Першая кніга, якую Васіль Быкаў выдаў не ў дзяржаўным, а ў незалежным выдавецтве.

**Валянцін Тарас. «На выспе ўспамінаў».** 606 старонак, 12.000 руб.

Кніга мемуараў, поўная важкіх дэталяў і трапных апісанняў. Пісьменнік запрашае нас у прастору, дзе жылі Якуб Колас і Васіль Быкаў, Пятро Машэраў і Уладзімір Мулявін.

**Наталка Бабіна. «Рыбін горад», раман** (акадэмічным правапісам).

**Наталка Бабіна. «Рыбін горад»,** раман (класічным правапісам), 12.000 руб.

У Беларусі — прэзідэнцкія выбары. І прэзідэнт Тарасенка праводзіць іх ва ўласцівай сабе манеры. Але яму кінулі выклік, прычым па-сур'ёзнаму. Раман, які паядноўвае элементы палітычнага дэтэктыва, гістарычнага фэнтэзі і жаночага, сацыяльнага рамана.

## «Рэспубліка супраць аўтакратыі»: Чаму расійская дыпламатыя не магла раскусіць механізмаў дзеяння Рэчы Паспалітай? »

**Віктар Казько. «Бунт незапатрабаванага праху».** 340 старонак. Раман, 11.000 руб.

Апошні па часе раман выдатнага сучаснага празаіка. На думку крытыкаў Міхася Тычыны і Лявона Баршчэўскага — творпадзея.

**Ева Вежнавец. «Шлях дробнай сволачы».** Апавяданні, 9.000 руб.

Кніга шыкоўнай прозы: асалода для гурманаў літаратуры. Яе пяром прамаўляюць тыя, хто самі не ўмеюць або не хочуць трымаць пяро.

**Франц Сіўко. «Дзень бубна»**, 13.000 руб.

Кніга прозы выдатнага пісьменніка з Віцебска. У кнігу ўвайшлі ягоныя найлепшыя творы.

**Павал Касцюкевіч. «Душа-старскія спатканні для дачнікаў».** Апавяданні, 9.000 руб.

Кніга шыкоўнай прозы: асалода для гурманаў літаратуры.

**Артур Клінаў. «Шалом».** 20.000 руб.

Хуліганскі раман ад аўтара кнігі «Мінск — горад сонца». Гэта кніга, якая прымусіць вас па-іншаму зірнуць на свет.

**Андрэй Хадановіч. «Сто лі100ў на tut.by».** Вершы, 30.000 руб.

У продажы застаюцца апошнія некалькі асобнікаў. Выдатная кніга пышнай паэзіі.

**Алесь Кудрыцкі. «Пластылындыя. Прыгоды капітана Танакі».** Дзіцячая кніга, 10.000 руб.

Кніга для дзетак, якія любяць ляпіць з пластыліну.

**Пётра Рудкоўскі. «Паўстанне Беларусі».** Эсэ, 10.000 руб.

Кніга эсэ манаха-дамініканца і інтэлектуала-філосафа. «Гэтая кніга адрасавана тым, хто верыць у будучыню Беларусі», — піша аўтар у прадмове.

**Андрэй Дынько, Андрэй Скурко. «Беларусь за дзесяць падарожжаў».** Гід па аўтэнтычнай Беларусі, 15.000 руб.

Рэдактары «Нашай Нівы» пабывалі на радзімах Васіля Быкава, Аляксандра Лукашэнкі і Зянона Пазняка, у месцы ссылкі Паўла Севярынца, у глухіх вёсках украінскага Палесся і хасідскай святыні ў Любавічах на Смаленшчыне ...

**«Жанчыны выходзяць з-пад кантролю».** Беларускае жаночае апавяданне, 9.000 руб.

Апавяданні Вольгі Бабковай, Евы Вежнавец, Марыі Роўды, Наталлі Судлянковай, Джэці ды 12 іншых аўтарак.

**Наталка Бабіна. «Крыві не павідна быць відна».** 9.000 руб.

Зборнік апавяданняў.

**«Вавілонская бібліятэка».** Апавяданні замежных аўтараў у перакладах «Нашай Нівы», 9.000 руб.

Эдгар Алан По, О.Генры, Борхес, Камю, Брэдберы і яшчэ 21 аўтар у найлепшых перакладах.

**«Паветраны шар». Беларускае мужчынскае апавяданне.** 334 старонкі, 9.000 руб.

У кнігу ўвайшлі найлепшыя апавяданні 1991–2007 гадоў аўтарства Уладзіміра Арлова, Ігара Бабкова, Лявона Вольскага, Адама Глобуса, Уладзіміра Някляева.

**Павал Севярынец. «Лісты з лесу».** 9.000 руб.

Зборнік эсэ, напісаных у ссылцы ў Малым Сітне (поўнач Полаччыны).

**Павал Севярынец. «Люблю Беларусь»** 608 старонак, 25.000 руб.

Кніга-энцыклапедыя беларушчыны. Цвёрдая вокладка.

**«Вясна народу».** Эсэістыка. 342 старонкі, 9.000 руб.

Зборнік эсэ, што друкаваліся ў «Нашай Ніве» ад 1991 да 2007.

**Пятро Краўчанка. «Беларусь на ростанях: нататкі дыпламата і палітыка».** 20.000 руб.

Кніга мемуараў пра канец 1980-х і пачатак 1990-х першага міністра замежных справаў Рэспублікі Беларусь.

**Сямён Печанко. «У Беларускім войску».** Эсэ, 5.000 руб.

Эсэ, напісаныя ў часе тэрміновай вайсковай службы.

**Марыя Вайцяшонак. «Серпень».** Вершы, 5.000 руб.

Зборнік верлібраў, вынашаны на гарах у вытоках Іслачы.

**Алесь Аркуш, Барыс Козік. «Брызгалаўка».** 5.000 руб.

Аркуш мае адказ на пытанне, з чаго пачынаецца Жодзіна, яго Жодзіна.

**Андрэй Хадановіч. «Берлібры».** Вершы, 5.000 руб.

Кніга верлібраў культавага паэта, напісаных у Берліне.

**Віталь Тарас. «Звыклае зло».** Эсэ, 9.000 руб.

Кніга эсэ выдатнага публіцыста.

**Лёлік Ушкін. «Левым вокам».** 5.000 руб.

Фельетоны ветэрана анархісцкага і экалагісцкага руху.

**Мікаэль Ніемі. Папулярная музыка з Вітулы.** Раман, 9.000 руб.

Раман пра суровых шведскіх хлопцаў па-беларуску.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

*Тыражы астатніх выданняў серыі вычарпаныя.*

*Каб аформіць замову, дашліце свой e-mail з пазначэннем вашага прозвішча, імя і імя па бацьку, а таксама дакладнага паштовага адраса (абавязкова з індэксам) на адрас dastauka@arche.by або лістамі на: Мінск, 220050, а/с 537. Не забывайцеся пазначаць назвы кніг, якія вы заказваеце. Для лепшай камунікацыі пажадана (але не абавязкова) таксама пазначыць нумар вашага кантактнага тэлефона.*

*Камплект будзе дастаўлены накладзеным плацяжом на ваша аддзяленне «Белпошты».*

*Кошт перасылкі па Беларусі невялікі. Увага: у полі «Тэма ліста» пазначайце — «Наша Ніва». Чакаем вашых замоваў!*

**Увага: акцыя дзейнічае толькі да 10 студзеня і толькі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.*

## Кніга пра беларускі нацыянальны рух, напісаная польскім шпіёнам »



У 2011 годзе Лукашэнка падпісаў Беларусь у Еўразійскі саюз.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Дэвальвацыя нацыянальнай валюты ў тры разы стала тэмай года.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Алесь Бяляцкі: кандыдат на Нобелеўскую прэмію за кратамі.



Арабская вясна ўскалыхнула свет. Рэвалюцыі адбыліся ў Егіпце, Тунісе, Лівіі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Жахлівы тэракт на станцыі Кастрычніцкая забраў жыцці 15 чалавек.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

БАТЭ сёлета добра зарабіў, а яшчэ прывёз у Мінск славутую «Барселону».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Культавы гурт N.R.M. сёлета выступаў без Лявона Вольскага.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Акцыі апладысментаў сталі самай яркай падзеяй лета.

# Прыняць ванну з «Паннай Нясвіжа»




Мыла «Панна Нясвіжа» мае глыбокі салодкі водар.

Галіна Яшчанка заўжды марыла стварыць нешта ўнікальна беларускае.

**На рынак выйшла новая беларуская гандлёвая марка — мыла ручнога вырабу «Karali».**

У свой час Галіна Яшчанка была актывісткай «Задзіночання беларускіх студэнтаў». Сёння яна любячая жонка і маці двухгадовага Настася. Працуе фінансавым кансультантам у замежнай кансалтынгавай кампаніі «McKinsey&Company».

Яшчэ з часоў студэнцтва ў дзяўчыны была задума стварыць нешта ўнікальнае і пры гэтым сваё, беларускае. У выніку мара матэрыялізавалася ў цалкам рэальны прадукт — мыла «Karali».

Першыя пробныя партыі мыла Галіна пачала рабіць у сакавіку 2011 года. Кансультавалася як з мясцовымі «мылаварамі», так і з замежнымі спецыялістамі. Наведвала майстар-класы ў Іспаніі, краіне, для якой вытворчасць мыла — традыцыйная галіна.

Назва кожнага з гатункаў мыла «Karali» — гэта часцінка беларускай гісторыі ці прыроды. Напрыклад, «Панна Нясвіжа», «Віленскае барока», «Чырвоныя парэчкі», «Папараць», «Валошкі» альбо «Цуд на каляды». Кожнае мыла мае асаблівы колер, пах і запакоўку.

Лагатып у выглядзе шляхетнага герба для «Karali» прыдумаў Міхал Анемпадыстаў, аўтар «Народнага альбома». А назва «Karali» прыйшла ў галаву беларускаму дызайнеру Максу Брубакеру. Прывабная запакоўка для мыла — вынік творчасці і прафесіяналізму дырэктаркі «ОС-студыі» Вольгі Сакаловай. Легенды для кожнага гатунку напісала Вольга Мазурава. Надпісы на запакоўцы, а таксама ў лістку-ўкладышу прыведзены па-беларуску і па-англійску.



Лінейка гатункаў на кожны густ.

«Karali» пазіцыянуе сябе на рынку як мыла ручной работы шляхетнага класа (такі беларускі адпаведнік атрымала слова «luxury»). Адметнасць брэнда — гэта выкарыстанне выключна натуральных кампанентаў.

Любое мыла складаецца з трох базавых рэчываў: вады, тлушчоў і шчолачы, а таксама дадатковых элементаў для паху і колеру.

У прамысловай вытворчасці звычайна бяруць танныя тлушчы (часта хімічныя) і дадаюць туды розныя субстанцыі дзеля павелічэння тэрміну прыдатнасці і паніжэння сабекошту канчатковага прадукту. Пры гэтым якасныя субстанцыі, напрыклад, гліцэрын (атрымліваецца ў выніку рэакцыі тлушчоў са шчолаччу), штучна выдаляюць са складу мыла для выкарыстання ў больш дарагой касметыцы (напрыклад, у крэмах).

Пры ручным вырабе мыла пасля таго, як адбылася рэакцыя тлушчоў са шчолаччу, у склад можна дадаць іншыя карысныя алеі і рэчывы. Гэтая дадатковая сумесь алеяў называецца ператлушч і яе аб'ём у мыле ручнога вырабу складае 3-10% ад масы асноўных тлушчоў (у «Karaliach» ператлушч дасягае 10%). Алеі і іншыя рэчывы з ператлушчу з'яўляюцца актыўнымі інгрэдыентамі і аказваюць дадатковы карысны ўплыў на скуру.

Існуюць два тэхналагічныя працэсы прыгатавання мыла ручнога вырабу. Першы — халодны (традыцыйны) спосаб, калі пасля змешвання інгрэдыентаў мыла цягам месяца «выспявае» пры пакаёвай тэмпературы. Другі — гарачы (прыспешаны) спосаб: пасля змешвання мыла «гатуецца» ў духоўцы некалькі гадзінаў. Усе гатункі мыла «Karali» робяцца традыцыйным халодным спосабам.

Цяпер для мэтаў вытворчасці Галіна арандуе невялікае памяшканне ў Мінску. Але ў перспектыве — перанос вытворчасці ў сельскую мясцовасць (сама Галіна жыве ў Валожынскім раёне). Сярод планаў на будучыню — пашырэнне асартыменту, распрацоўка новых відаў прадукцыі і выхад на замежныя рынкі збыту.

**Аксана Рудовіч**

**Цана мыла «Karali» складае 29 тысяч рублёў. Набыць яго можна на сайце www.karali.by ці заказаўшы па тэлефоне (44) 730-79-04.**

## НАВАГОДНІЯ ІМПРЭЗЫ

### Новы год у Філармоніі

**31 снежня у Белдзяржфілармоніі (пр.Незалежнасці, 50)** — «Новы год у Філармоніі». **Пачатак а 19-й.**

### Навагодні шляхецкі баль

**У ноч з 31 снежня на 1 студзеня ў хостэле «Джаз» (Мазырская, 37а)** пройдзе «Навагодні шляхецкі баль». У праграме: тэатралізаваныя пастаноўкі, беларускія навагоднія стравы і пітво, конкурсы, старадаўнія танцы і выбар найлепшай пары балю, жывая фолк-музыка.

### Паўночныя псы

**14 і 15 студзеня на базе адпачынку «Пікнік-гатэль «Экспедыцыя» (Лагойскі р-н, Войкаўская ГЭС, «Плешчаніцы-2»)** пройдзе фэст аматараў ездавога спорту «Паўночныя псы». Возьмуць удзел каманды Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы, Латвіі, Нідэрландаў.

### Лядовае шоу

**29 снежня** спартовы комплекс «Мінск-Арэна» запрашае на «Навагодняе дзіцячае лядовае шоу». **Пачатак — а 15-й і а 18-й.**

### Прыгоды ў Батанічным садзе

**Штодня да 30 снежня Батанічны сад** запрашае на «Навагоднія прыгоды». Сярод магутных дрэваў наведнікаў чакае загадкавы персанаж «Дзіва-дзіўнае», у якога можна запытацца дарогу да Дзеда Мароза, тамсама можна будзе ўпрыгожыць жывую навагоднюю ялінку.

### Навагодні карнавал

**28, 29, 30 снежня ў бары «Каёт» (пр.Незалежнасці, 117а) а 20-й** — навагодні карнавал.

### Чайкоўскі-гала

**30 снежня а 19-й у Вялікай зале Філармоніі** — святочны канцэрт «Чайкоўскі-гала».

### Камерата і Чысты голас

**31 снежня Музычны тэатр (Мяснікова, 44)** запрашае на канцэрт ансамбля «Камерата» і групы «Чысты голас». **Пачатак а 19-й.**

### Квартэт Андрэя Барылы

**4 студзеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — квартэт Андрэя Барылы Barilazz. **Пачатак а 19-й.**

### Старонкі з опер і аперэт

**5 студзеня ў Малой зале Філармоніі імя Р.Шырмы** — «Знаёмыя і незнаёмыя старонкі з опер і аперэт». **Пачатак а 19-й.**

### Канцэрт у дзень народзінаў Мулявіна

**12 студзеня у Вялікай зале Філармоніі** — канцэрт у дзень народзінаў Уладзіміра Мулявіна. **Пачатак а 19-й.**

### Калядны канцэрт у музеі

**28 снежня а 19-й у Мастацкім музеі** італьянскі піяніст Джакома Батарына і камерны склад сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь прапануюць вашай увазе калядны канцэрт. У праграме: А. Карэлі, В.А.Моцарт, П.І.Чайкоўскі.

## КАНЦЭРТЫ

### Тройца

**25 студзеня ў Белдзяржфілармоніі** — канцэрт гурта года — этна-трыа «Тройца». **Пачатак а 19-й.**

### Крынічка

**14 студзеня у Вялікай зале Філармоніі** — ансамбль «Крынічка». **Пачатак у 16.30.**

### Нагуаль

**3 студзеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — псіхадэлічны гурт «Нагуаль». **Пачатак а 19-й.**

## ВЫСТАВЫ

### Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска

**Да 8 студзеня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска». Напалеонаўскія войны — пераломная падзея пачатку XIX ст. Нягледзячы на маштаб і значнасць вайны 1812 г. для Беларусі, яна да канца так і не асэнсавана грамадствам.

### Вобраз Прасвятой Багародзіцы з беларускага іканапісу XVII—XVIII стст.

**Да 16 студзеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Вобраз Прасвятой Багародзіцы з беларускага іканапісу XVII—XVIII стст.» На выставе паказана 40 твораў са збораў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, большасць якіх адносіцца да праваслаўнай традыцыі, і толькі тры абразы напісаныя ў традыцыях не візантыйскай, а італьянскай іканаграфіі.

### Калядны кірмаш

**Да 15 студзеня ў мастацкай галерэі «ЛаСандр-арт» (Раманаўская Слабада, 24)** працуе выстава жывапісу «Калядны кірмаш». У экспазіцыі — працы Ігара і Алены Бархатавых, Сяргея Рымашэўскага, Уладзіміра Канцэдайлава, Дзмітрыя Сурыновіча і іншых.

### Пінхол

**У кінатэатры «Цэнтральны» да 11 студзеня** працуе выстава «Пінхол у Мінску». Пінхол (ад англ. pin — булаўка і hole — адтуліна), вядомы таксама як стэнап і камера абскура, — гэта тое, з чаго пачалася фатаграфія.

Першая міжнародная выстава «Пінхол у Мінску» — сумесны праект некалькіх фотагруп з Беларусі, Расіі і Літвы.

## КІНО

### Том Круз на руінах Крамля

**Місія невыканальная: Пратакол Фантом** (Mission: Impossible — Ghost Protocol)
ЗША, 2011, каляровы, 132 хв.
**Рэжысёр:** Брэд Бёрд
**Ролі выконваюць:** Том Круз, Джэрэмі Рэнер, Сайман Пэг, Пола Пэтан, Уладзімір Машкоў
**Жанр:** Прыгодніцкі баявік
**Адзнака:** 5 (з 10)

Спецыяльны агент Ітан Гант уцякае з расейскай турмы, каб знайсці ў Крамлі ядзернага тэрарыста. Але нягоднік падрывае Крэмль — і ў гэтым абвінавачваюць спецагента. Цяпер яму трэба нейтралізаваць тэрарыста і прадухіліць атамную вайну. Місія Тома Круза — немагчымыя прыгоды на фоне сусветных дэкарацый, якія ліхаманкава змяняюцца згодна з логікай камп'ютарнай гульні. Маскоўскі Крэмль (падарваны), дубайскі хмарачос (шыбы павыбіваныя), індыйскі тэлецэнтр (драты паабрываныя) — пляцоўкі для баявых галівудскіх практыкаванняў. Том Круз караскаецца па хмарачосе, як чалавек-павук, носіцца па Крамлі і падае на аўтамабілях з вышыняў.

На такія фільмы ходзяць дзеля атракцыёнаў, і тых атракцыёнаў у фільме пад завязку: уцёкі з турмы, пагоня, выбухі, экстрэмальны альпінізм, бойка за ядзерны пульт. Фільм — сучасны пластыкавы тавар, не сумны і электрычны.

**Андрэй Расінскі**





**Наталля Пяткевіч ажывіла «Тэракотавую пудраніцу». Памочнік Лукашэнкі прыняла ўдзел у праекце Вольгі Смаляк «Карціны, што ажылі». Ідэя праекта — аб'яднаць праз мастацтва Андрэя Смаляка вядомых людзей Беларусі. Палітыкі і артысты, паэты і бізнесмены, рэжысёры і спартсмены прымяраюць на сябе вобразы герояў карцін.**

**Чэхаўскі «Віцязь» зноў завітаў у Мінск. І зноў не абышлося без боек. Праўда, на гэты раз разборкі спартсменаў не былі такімі брутальнымі. Хаця нават варатару мінчан Андрэю Мезіну ўдалося памахаць кулакамі. Ну а «Віцязь» перамог 2:3.**



**Таямнічае пасланне нашчадкам, зробленае ў Жодзіне.**






**У Паўночнай Карэі працягваюцца жалобныя цырымоніі пасля смерці «любімага кіраўніка» Кім Чэн Іра.**

**Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «НН» выйдзе 11 студзеня 2012 года. Шчаслівых Вам Калядаў і Новага года!**

## Анекдоты

* * *

КДБ шукае дзвюх бландзінак. Асаблівыя прыкметы: вусы.

***

Вашывасці хапае ў цяперашняга кіраўніцтва Украіны, а вось дзяўчата ў ных гарні.

* * *

Мяч яшчэ ляцеў у акно дырэктара школы, а дзеці ўжо гулялі ў хованкі.

* * *

Пры пераходзе мяжы Беларусі магчымыя нестандартныя пытанні, напрыклад:

— Вы з якой краіны едзеце да нас?

— З Бельгіі.

— А хто ў вас прэзідэнт (прэм'ер-міністр, кароль)?

— Імярэк.

— Ці ведаеце вы памер ягоных яйцаў?

— (Увага, правільны адказ!) Ён у нас без яйцаў.

— Праходзьце.

* * *

Учора ў нашым раёне была жорстка збітая чарнаскурая сям'я. На наступны дзень на сайце Ку-Клукс-Клана паведамілі, што адбылася найгрубейшая правакацыя з мэтай дыскрэдытацыі Клана.

* * *

Рэвалюцыя ў Расіі пачалася, адкуль не чакалі. Пасля вяселля з Пугачовай Максім Галкін узяў прозвішча жонкі і імя Емяльян.

* * *

– Прафесар, а я атрымаю аўтамат?

– Так... і боты.

***

Людзі адмянілі зімовы час. Прырода пакрыўдзілася і адмяніла зіму.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Выйшаў з друку і прадаецца «Беларускі каляндар» на 1912 год.** Прадаецца ў кнігарнях і рэдакцыі «Нашай Нівы»: Вільня, Завальная, 7. Цана 15 капеек, з перасылкай простай бандэроллю 20 капеек.

**«НН». №51—52, 1911.**

**Год, што пражылі, здаецца, можна назваць годам без вынікаў.** Дурныя выбары ў нас, адны размовы пра лібералізацыю. Бязглуздыя атакі камікадзэ на Амерыку, вайна ў Афганістане, якая мала што мяняе ў свеце на лепшае. Як гэтая безвыніковасць кантрастуе са зменамі ў гарадскім асяроддзі, асабліва мінскім! Адчыніўся чысты вакзал, перамянілася — не пазнаць — Камароўка, паўсталі новыя кірмашы, метро падабралася да богам забытых Шабаноў. Мала засталося ў горадзе сем'яў, у якіх няма машыны.

**«НН». №52—53. 2001.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7630. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 27.12.2011.
Замова № 6180.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614